6 лістапада 2020 | № 42 (701)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

«Элегантныя перамогі» па-амерыканску
стар. 8

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

# За кратамі — таму што журналісты




Аксана КОЛБ

**Ужо каторы нумар на першай старонцы «Новага Часу» вы маглі бачыць цудоўныя фотаздымкі нашых карэспандэнтаў. Але гэтым разам вы бачыце фота саміх журналістаў.**

Тры фотакоры «Новага Часу» — Дзмітрый Дзмітрыеў, Аляксандр Зянькові і Яна Трусіла — былі затрыманыя 1 лістапада. Затрыманыя, бо сумленна рабілі сваю працу. Стараліся зафіксаваць для вас, шаноўныя чытачы, і для ўсяго грамадства, дзеля гісторыі, нарэшце, тое, што адбываецца ў Беларусі.

Зафіксаваць гвалт і нахабства тых, хто павінен абараняць народ і закон. Мужнасць і самаахвярнасць тых, хто больш не можа трываць беззаконне і тэрор. Яны працавалі смела і самаададдана, як заўсёды. Як і ўсе сумленныя журналісты ў Беларусі. Але так і не здолелі здаць свае матэрыялы ў рэдакцыю.

Іх затрымалі, адвезлі ў РУУСы, пасля — у ІЧУ на Акрэсціна, а 2 і 3 лістапада судзілі. Калі ў прынцыпе можна назваць судамі тое, што апошнім часам адбываецца ў памяшканнях судоў. Дзмітрый Дзмітрыеў атрымаў 10 сутак па арт. 23.34 ч.1 КаАП — «парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў», Аляксандр Зяньковіч — 13 сутак па арт. 23.4 КаАП — «непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы», 20-гадовая Яна Трусіла, якую затрымалі ўпершыню, — таксама 13 сутак па арт. 23.4. Вось такая разнастайнасць.

Акрамя нашых фотакораў за кратамі застаюцца яшчэ 6 журналістаў. Агулам з 9 жніўня журналістаў затрымлівалі 320 разоў, было зафіксавана 60 фактаў гвалту супраць журналістаў, 52 журналісты адбывалі суткі за кратамі.

Канечне, у параўнанні з агульным размахам гвалту і беззаконня ў Беларусі, гэта няшмат. Але менавіта рэпрэсіямі ўлады спрабуюць прымусіць нас, журналістаў, змоўкнуць. Не пісаць праўду, не фатаграфаваць і не здымаць. Яны спадзяюцца, што такім чынам змогуць закрыць нам рот, а вам — вочы. Не атрымаецца!

Праўду не схаваеш! Свабоду не задушыш! Слова не заб'еш!

# Былы выкладчык Вайсковай акадэміі расказаў пра рэпрэсіі і звальненне

Дзмітры ГУРНЕВІЧ,
Радыё Свабода

**Падпалкоўнік запасу Віталь Чырвінскі быў галоўным гісторыкам Міністэрства абароны. Апошнія гады выкладаў у Вайсковай акадэміі. На гэтым тыдні ён страціў працу. У інтэрв'ю «Свабодзе» ён расказаў пра рэпрэсіі і звальненне, а таксама пра настроі ў беларускім войску.**


Зарына Кандрацьева, budzma.by (Courtesy Photo)

### Пра клопаты пасля інтэрв'ю «Свабодзе»

У 2018 годзе я даў інтэрв'ю пра свой занятак вайсковай гісторыяй. Інтэрв'ю атрымалася патрыятычным, добрая рэклама для акадэміі. Але ўжо на наступны дзень мною зацікавіліся. І з таго часу ў мяне пачаліся праблемы. Праводзілі расследаванне. Выклікалі і казалі:

— Ну як так? Ты даў класнае інтэрв'ю, але не таму, каму патрэбна. Чаму ты не даў яго «Советской Белоруссии»? Выраншылі не звальняць, было шмат размоваў. Палезлі нават у мае сацыяльныя сеткі, знайшлі «крамольныя» здымкі з бел-чырвона-белым сцягам. Зрабілі вымову, я страціў прэмію. Ад таго моманту час пайшоў, мяне заўважылі: ідэолагі і контрвыведка.

Пазней праходзіў агульнабеларускі агляд-конкурс вайсковых факультэтаў. Я прадстаўляў Вайсковую акадэмію і заняў першае месца. Пасля гэтага з мяне знялі апалу. Потым я рабіў выставу ў акадэміі. Прывозілі нават кіраўніка дзяржавы, ён быў узрушаны.

### Пра новыя праблемы падчас выбарчай кампаніі

Летам я быў у адпачынку. Званок кіраўніка: «Што вы ўчора рабілі? Вас бачылі на пікеце Ціханоўскай». Я кажу, а што тут такога, гулялі з жонкай па горадзе, паглядзелі і сышлі. І гэта стала нагодай. Мне зноў пачалі назвоньваць. Былі размовы на павышаных тонах.

Пасля выбараў я выйшаў з адпачынку, і мне кажуць: «Акадэмія хоча з вамі разарваць кантракт». А ў мяне кантракт яшчэ на два гады. Я параіўся з юрыстамі і вырашыў не пісаць заяву. Ад мяне трошкі адчапіліся.

Праз два тыдні зноў звоніць начальнік: «Што вы там нарабілі? На вас паступіў данос у міліцыю. Сэнс даносу ў тым, што я хадзіў па кватэрах, заклікаў на мітынг, стаяў уначы на балконе і крычаў «Жыве Беларусь». Я сказаў, што такога не рабіў і гатовы падаць у суд за паклёп. Сказалі, няважна, ці рабіў, цярпець яны больш не могуць. Была яшчэ адна размова з вышэйшым кіраўніцтвам, я папрасіў скончыць курс лекцый. Пагадзіліся.

Але неўзабаве зноў выклікалі і сказалі, што ўсё, больш трываць не будуць, бо, маўляў, ёсць здымак, дзе на акне маёй кватэры белы аркуш паперы (сімвалізуе белы квіток Лукашэнку. — РС). Далі 10 хвілін, каб напісаць заяву. Я напісаў, бо ўжо стаміўся ад усяго гэтага.

### Пра сваю працу

За 7 гадоў працы ў акадэміі я зразумеў, што гэтая дысцыпліна патрабуе больш прабеларускага погляду. Я адчуваў, што даю курсантам прышчэпку любові да сваёй радзімы. Крыўдна, што мяне «сышлі», бо хто цяпер будзе даваць гэтую прышчэпку.

Начальнік напісаў на мяне характарыстыку. Усё было вельмі пазітыўна, але выснова такая: нацыяналіст, апазіцыянер, палітыку дзяржавы не падтрымлівае. Пры тым, што ў самой характарыстыцы не было ані слова пра тое, што я зрабіў нешта кепскае для акадэміі або краіны.

Усё гэта — ініцыятыва аддзелу ідэалогіі. Мне не раз казалі, што адтуль тэлефанавалі начальству і пыталіся: калі вы ўжо звольніце гэтага Чырвінскага?

Але я рабіў сваю працу. Я не хлусіў і не баяўся праяўляць ініцыятыву. У тым ліку і патрыятычную. Я і да гэтага рабіў тое самае. Пяць гадоў быў галоўным гісторыкам Мінабароны.

### Пра стаўленне калегаў

Складанае пытанне. Усе жывыя людзі. Камусьці ёсць што страчваць. Нехта падтрымлівае, а нехта не. Але я ж не зрабіў нічога гераічнага. Я вайсковы пенсіянер, у мяне ёсць пенсія. Я працаваў і звольніўся. Героі — тыя, каму ёсць што страчваць. Такімі трэба ганарыцца, і такія таксама ёсць у акадэміі. Але каб усе выйшлі на пляц за аднаго, то такога ніколі не будзе. Армія — гэта дысцыплінаваны інстытут.

### Пра пазіцыю войска

Магу казаць толькі пра тых, з кім размаўляў. Мой калега з кабінету меў супрацьлеглыя думкі. Была ў нас размова пра інаўгурацыю, я кажу, што гэта няправільна. Ён сышоў моўчкі, а ранкам прышоў і сказаў: «Я ведаю праўду, я пагляджу "Панараму"». Гэта дарослы чалавек, яго ўжо не пераканаеш.

Ёсць і шмат нармальных, якія кажуць, што ўсё разумеюць, але трэба дапрацаваць год-два. Але такога, што «мы выйдзем шчыльнымі радамі», то такога няма і не будзе. І, магчыма, не трэба. Гэта армія, людзі са зброяй.

### Пра рэпрэсіі за патрыятызм

Гісторыя — гэта палітыка. Я падрыхтаваў выставу пра тысячагадовую вайсковую гісторыю, ад Полацкага княства. Я рабіў усё адзін, але нада мною сядзелі цэнзары. Даходзіла да кіпення. Бяруць Аршанскую бітву, якая ў мяне апісана нейтральна, а яны перакрэсліваюць і кажуць: ні ў якім разе. Я тады кажу: «Дазвольце, я хоць пакіну вось гэтую карцінку». — «Карцінку пакідай». Магчыма, яны не ведалі, што карцінка — гэта і ёсць бітва пад Воршай.

Пішу пра Касцюшку, што нацыянальны герой ЗША, Польшчы і Беларусі. А мне загадваюць выкрасліць пра Беларусь. Я пытаюся, а чаму? А яны кажуць, вось уявіце, прыедуць расіяне, а тут усё па-беларуску.

Ёсць страх, што прыедзе камісія і скажа — што вы тут нарабілі? Таму лепш хай нічога не будзе. Гэта страх за свае крэсла. Другая пазіцыя — гэта «русский мир». Адзін мне так сказаў: «Я сапраўдны афіцэр, я прысягаў савецкаму народу, і другі раз у 1992-м прысягу не даваў». І кажуць пра такое з гонарам. Але гэта хлусня, у асабістай справе запісана, што ўсе прымалі прысягу, інакш бы такога звольнілі. І такія ва ўсім бачаць контррэвалюцыю.

Мне адзін сказаў, што беларуская мова мёртвая, таму мы на сценах нічога на ёй рабіць не будзем. А я яму кажу: «Тады адмоўцеся ад дзяржаўных узнагародаў, якія на беларускай мове, пакіньце на жывой рускай». І ён адказаў: «Добра, палову рабіце на беларускай».

# Іна Ліпніцкая: «Складала радавод і плакала»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Іна Ліпніцкая — выкладчыца музыкі ў вясковай музычнай школе Слуцкага раёна. 1 лістапада яна ўсклала кветкі каля крыжа ў лясным масіве каля вёскі Каліта. Для яе гэта быў не проста сімвалічны акт.**

Жанчына цікавіцца гісторый Беларусі даўно, шмат ведае пра сталінскія рэпрэсіі на Случчыне. «Мяне ўразіла афіцыйная інфармацыя, што першапачатковыя "нормы" рэпрэсій для Беларусі (расстраляць — 2000 чалавек, адправіць у лагеры — 10 000) былі выкананы і перавыкананы за перыяд з лета 1937-га да восені 1938-га, — гаворыць настаўніца. — Замест запланаваных 12 000 тысяч беларусаў ад рэпрэсій пацярпелі 86 000, а пакараныя праз расстрэл былі 25 425 жыхароў Беларусі.

Асабліва шчыравалі мясцовы Слуцкі НКУС. У свабодным доступе ёсць інфармацыя, што ў спаборніцтве сярод раённых аддзелаў па знішчэнні грамадзян Слуцкі НКУС выйшаў на 1-е месца ў Савецкім Саюзе. Пры сутачнай "норме" для аператыўнікаў аформіць матэрыялы на аднаго "ворага" ў дзень некаторыя следчыя Слуцкага НКУС арыштоўвалі па 4–5 у суткі».

Для Іны Ліпніцкай гэта — не проста лічбы. Сярод загубленых НКУС нявінных душаў шмат яе родзічаў, у тым ліку і два прадзеды па бацькоўскай і матчынай лініі.

«Жыхары вёскі Ленькі Слуцкага раёна сведчылі, што за адну восеньскую ноч 1937 года "варанкі" забралі 19 чалавек, — распавядае Іна Ліпніцкая. — Сярод іх быў і мой прадзед, дзед майго бацькі. У матэрыялах справы напісана, што Кобель Павел Іосіфавіч — непісьменны, каталік, земляроб. Арыштаваны 16 снежня 1937 года. Непісьменнаму селяніну, якому споўнілася 61 год, прыпісаліся ўзброенае паўстанне, шпіянаж, удзел у паўстанцкай дыверсійнай групе "Пов". Нібыта меў заданне ў момант вайны з Польшчай арганізаваць дыверсійныя акты на абаронных аб'ектах, праводзіў агітацыю паражэнцкага характару. Ужо 8 студзеня 1938 года Павел Кобель быў расстраляны ў Мінску. Да расстрэлу ўтрымліваўся ў слуцкай турме. Пра месца яго пахавання нічога не вядома, родзічы мяркуюць, што, магчыма, яго парэшткі ляжаць у Курапатах».

Дзякуючы таму, што жанчына пачала складаць свой радавод, даведалася яна і пра іншых сваіх продкаў, загубленых сталінскімі катамі.

«Горка чытаць гэтыя рашэнні аб расстрэле. За імі стаяць вынішчаныя лёсы, — кажа Іна. — З чатырох сыноў Паўла Іосіфавіча Кобеля пасля сталінскіх рэпрэсій выжыў толькі старэйшы Адам, інвалід дзяцінства, мой дзед. Яшчэ пра аднаго брата дзеда знайшла інфармацыю: Кобель Іосіф Паўлавіч, памочнік механіка парахода. Быў расстраляны амаль адразу пасля расстрэлу свайго бацькі ў Ленінградзе — за "шпіянаж і арганізацыйна-контррэвалюцыйную дзейнасць". Лёсы ж трэцяга і чацвёртага сыноў (Сцяпана і Дамініка) не вядомыя да гэтага часу — зніклі ў траўні-чэрвені 1941 года... Як быццам іх кудысьці запрасілі праехаць на машыне, і яны пасля гэтага не вярнуліся».

Яшчэ адзін прадзед з боку маці таксама быў закатаваны і расстраляны.

Па словах Іны, да партрэта дзеда мамы яна прывыкла з дзяцінства — вісеў на сцяне. Маці адказвала, што дзеда забралі і ён недзе знік.

Родзічы рабілі запыты яшчэ да 1953 года, атрымалі адпіску, што прадзед нібыта памёр ад сухотаў у лагеры падчас вайны.

На сайтах па генеалогіі Іна знайшла чалавека, які займаецца іх родам. Высветлілася, што родам Ліпніцкіх цікавіўся не адзін чалавек і нават складзена цэласнае дрэва з галінкамі. Цяжкасць была ў тым, што бабуля на той час памерла, і са свайго боку жанчына апрача імені прадзеда не ведала нічога. Нават не ведала імя па бацьку. Падказалі, што павінен быць Сцяпанавіч, якраз не былі вядомыя нашчадкі Сцяпана Ліпніцкага. Звярнулася з запытам у архіў КДБ. Высветлілася, што яе прадзед Пётр Сцяпанавіч Ліпніцкі, селянін з Бабруйскага раёна, расстраляны восенню 1939 года нібыта за «шпіянаж», рэабілітаваны ў 1958 годзе. Яму было ўсяго 38 гадоў. Хлуслівы адказ пра яго смерць у лагеры насамрэч схаваў расстрэльны прысуд.

«Я без слёз не магла чытаць у матэрыялах справы пра склад сям'і прадзеда — шасцёра маленькіх дзяцей: старэйшаму сыну — 13, малодшай дачцэ — 3 гады, — успамінае Іна Ліпніцкая. — Плакала, чытаючы пра яго прысуд: "Расстраляць". Як сям'я без яго выжывала ў тыя галодныя гады — доўгі аповед... Бедавалі, да таго ж гэта была сям'я "ворага народа", спрацоўвалі розныя абмежаванні, непрыязнае стаўленне з боку ўладаў. Над маім радаводам плакала ўся сям'я».

Іна Ліпніцкая лічыць, што цяпер вакол зноў запанаваў гвалт. Прымаюцца жахлівыя загады, законы супраць людзей. Людзей хапаюць і кідаюць у СІЗА — нават толькі за тое, што паклалі кветкі. Як і тады, на ўсю моц працуе прапаганда.

«Нават многія мае суседзі не спрабуюць разабрацца ў тым, што адбываецца вакол. Можа, калі б яны капнулі свае радаводы, вывучылі карані, то таксама б не спачувалі Злу», — робіць выснову выкладчыца музыкі.

Кветкі каля крыжоў у гэты дзень у лясных масівах Случчыны ўсклалі 14 чалавек.

# Марш супраць тэрору: яшчэ на крок бліжэй да перамогі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У 2020 годзе ў Курапатах зноў стралялі ў людзей і гналі іх па «дарозе смерці». Нядзельнае шэсце на Дзяды, якое павінна было сімвалізаваць апошні шлях ахвяраў сталінскага тэрору, атрымалася зусім не сімвалічным, а занадта рэалістычным.**







Прапанову Зянона Пазьняка прайсці 1 лістапада традыцыйным нядзельным маршам у Курапаты, сумясціўшы яго з не менш традыцыйным штогадовым шэсцем на Дзяды, далёка не ўсе ўспрынялі з энтузіязмам. Многія выказваліся ў духу: навошта ісці на ўскраек горада ў лес, дзе небяспечна і няма куды ўцякаць у выпадку зачысткі? Ці не лепш ісці ў цэнтр, дзе нашмат больш варыянтаў для адступлення?..

Тым не менш у прызначаны час да гадзіннікавага завода, ад якога ў апошнія гады пачынаецца шэсце на Дзяды, з розных бакоў (метро да гэтага часу ўжо закрылі) сцякаліся ручаінкі людзей. Калона з некалькіх тысяч удзельнікаў пачала рухацца па маршруце, а паралельна ёй, крыху наперадзе, паехалі бусы з сілавікамі. Раптам прагучалі папераджальныя стрэлы ў паветра. «Шматабяцальны пачатак», — падумала я і пайшла далей разам з людзьмі. У нейкі момант бусы спыніліся, адтуль высыпалі «касманаўты» — і пачалі адцясняць людзей.

Чалавечая рака зноў разбілася на ручаінкі ў раёне вуліцы Валгаградскай, і пацякла ўжо дварамі. «Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!» — скандавалі людзі, працягваючы ісці наперад партызанскімі сцежкамі. Раз-пораз людзі пачыналі бегчы. Паварочваюся — і бачу прычыну: ззаду бусы. Здаецца, наўпроставай пагрозы няма, але спрацоўвае нейкі жывёльны інстынкт, і вось я ўжо бягу разам з усімі. Але — нядоўга. Крыху заглыбіўшыся ў двары, дэманстранты працягваюць хаду, пляскаюць у далоні і гукаюць «Жыве Беларусь!»

Раптам ззаду чуюцца гукі барабана. Ісці становіцца весялей. Барабаншчык — беларускамоўны хлопец па імені Пятро, які не прапусціў яшчэ ніводнага нядзельнага маршу. І кожны раз — з інструментам: гітарай ці барабанам.

— Сёння я спецыяльна ўзяў лёгкі барабан, ён пераварочваецца, і можна бегчы. З гітарай было складана, бо ў мяне быў комбік над галавой. Хадзіць з інструментам весялей, гэта падбадзёрвае. Гэта тое, што я магу, — значыць, я павінен гэта рабіць.

Пятро гаворыць, што маршрут у Курапаты — вельмі актуальны, бо сёння мы зноў сутыкаемся з рэпрэсіямі (у гэты час мы акурат праходзім ля Першамайскага РУУСа, на стаянцы перад якім — бусы і нават вадамёты).

— Часам задумваешся, што хацелася б адпачыць, у лес схадзіць... Але як інакш? Як нешта зменіцца, калі ты хаця б на маршы не будзеш хадзіць? Гэта не нешта страшнае і геройскае. Калі ты можаш — трэба хадзіць.

«На Валгаградскай — “касманаўты”!» — раптам крычаць нам людзі з балкона аднаго з дамоў. Мы паварочваем крыху ўбок. «На Лагойку!» — скандуе грамада, і дварамі мы прабіраемся да Лагойскага тракту.

**«Для нас гэта — забітыя людзі. А для іх — трыумф іх улады. Гэта вельмі страшна — калі пачалі вырываць там крыжы. Я лічу, што цяпер у Беларусі ва ўладзе НКУС, і каманда ідзе з Лубянкі. І Курапаты — помнік іх садызму»**

Спрабуем ісці калонай, але з Валгаградскай вырульваюць шэрагі аўтазакаў, бусаў і вадамётаў. Бусы пагрозліва спыняюцца. Для пратэстоўцаў гэта сігнал: хутчэй у двары.

Стараемся пазбягаць дарог і выбіраем месцы, дзе бусам будзе цяжка праехаць. На ўсялякі выпадак глядзім, дзе адчыненыя пад'езды. На шчасце, пакуль не трэба.

Ужо не калонай, зусім разрознена мінаем Севастопальскі парк. Па тэлефоне знаёмыя паведамляюць, што недалёка, каля «Макдональдса», збіраюцца сустрэцца тры калоны людзей і адтуль рушыць у Курапаты. Але туды трэба яшчэ дабрацца: трамвайны рух спынены, наперадзе — калоны спецтэхнікі з сілавікамі. Машыны, што сталі ў заторы на Лагойскім тракце, гудуць, людзі з вокнаў ганьбяць лукашэнкаўцаў. Ля бізнес-цэнтра нейкі мужчына, бачачы, што мы збіраемся ісці ў самую гушчу, прапануе нам зайсці пагрэцца ў будынак.

Але мы ідзем наперад, трымаючы ў полі зроку аўтазакі і машыны з сілавікамі. Раптам яны выходзяць з транспарту, шыхтуюцца і пачынаюць спачатку ісці, а потым бегчы строем наперад. Прыкладна ў гэты ж самы час раздаецца першы выбух святлашумавой гранаты. Як потым даведаемся — каля таго самага «Макдональдса», дзе меліся сустрэцца калоны.

Ужо амаль дайшоўшы да вуліцы Каліноўскага, бачым, што «касманаўты» з дубінкамі накіроўваюцца ў наш бок. Хутка, але акуратна, паварочваем назад і паглыбляемся ў двары. Яшчэ некалькі разоў чуем выбухі, разрываюцца сірэны — ці тое хуткія, ці тое міліцыя. За пару соцень метраў ад нас ідуць кропкавыя, але жорсткія затрыманні.

Дварамі прабіраемся да вуліцы Мірашнічэнкі, але адтуль насустрач нам хутка ідуць людзі. Курапаты ачэпленыя, ідзе разгон, паведамляюць яны. Наўпрост на полі, дзе ішла «дарога смерці», па якой у 1930-х везлі на расстрэл, нашчадкі катаў кідаюць святлашумавыя гранаты і на машынах ганяюцца за людзьмі. У Курапатах зноў страляюць у людзей. Гэта ўжо не проста сімвалізм, гэта нейкае кола сансары.

Па дарозе да народнага мемарыялу сустракаю сталую пару. Жанчына — у белым паліто з чырвоным шалікам. Не памыляюся, калі пытаюся, ці яны ідуць у Курапаты. Менавіта туды: штогод яны ўдзельнічаюць у шэсці на Дзяды. У сям'і ёсць рэпрэсаваныя, таму для іх гэта — асабістая гісторыя. А спадарыня (назваць сваё імя яна не захацела) ходзіць і на цяперашнія нядзельныя маршы.

— Мяне проста сумленне з'есць, калі я буду сядзець дома, — гаворыць яна. — На Курапаты абавязкова трэба ісці. Курапаты — гэта цэнтр нашай бяды. Сёння яшчэ і Усе Святыя, нам абавязкова трэба туды трапіць — у нас з сабой свечачка і кветкі — трэба паставіць. Хаця даводзіцца кругамі тут бегаць, цяжкавата. Нават калі сёння мы не трапім, мы ўсё роўна сюды прыйдзем, і нам часцей трэба сюды прыходзіць.

Курапаты — сакральнае месца не толькі для беларусаў, чыіх продкаў рэпрэсавалі. Гэтае месца сакральнае і для катаў, пераканаыная жанчына.

— Для нас гэта — забітыя людзі. А для іх — трыумф іхняй улады. Гэта вельмі страшна — калі пачалі вырываць там крыжы. Я лічу, што цяпер у Беларусі ва ўладзе НКУС, і каманда ідзе з Лубянкі. І Курапаты — помнік іх садызму, — лічыць суразмоўца.

Тым часам да ўрочышча прагаважаць сцягваюць спецтэхніку. Але навокал адбываецца нешта дзіўнае: людзі не хаваюцца ад яе, а спакойна ідуць побач, вітаючы адзін аднаго воклічамі: «Жыве Беларусь!». Аўтамабілісты, якія зноў сталі ў заторы, уключаюць на ўсю гучнасць «Тры чарапахі» і «Перамен». Чым далей — тым менш страху і больш жадання разарваць кола сансары і адваяваць сваю свабоду, хто б што ні казаў пра «не браць палонных» і «адарваныя рукі».

Здаецца, падчас маршу супраць тэрору 1 лістапада беларусы зрабілі амаль немагчымае. Нягледзячы на разгоны, стрэлы, выбухі святлашумавых гранат і затрыманні, тысячы людзей усё ж дайшлі да Курапатаў, каб ушанаваць памяць сваіх дзядоў і ўсіх ахвяр палітычных рэпрэсій ды засведчыць: мы ідзем да канца. А значыць, у гэты дзень мы сталі яшчэ на крок бліжэй да перамогі.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Што сучасным эканомікам добра, для беларускай мадэлі — смерць

**Парламент, выбары, праваахоўныя органы — усе гэтыя абавязковыя інстытуты сучаснай дзяржаўнасці ў нас быццам бы існуюць, вось толькі скарыстацца іх паслугамі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй чамусьці не атрымліваецца.**

Тыя, каму належыць ахоўваць парадак, бяруць прыклад са злачынцаў і хаваюць свае твары пад маскамі. Чальцы камісіі па падліку галасоў не вывешваюць выніковых пратаколаў і таемна пакідаюць участкі для галасавання праз запасны выхад. Сам быў сведкам падобнага. Дэпутаты, якія засядаюць у Палаце прадстаўнікоў, ні маіх інтарэсаў, ні інтарэсаў маіх шматлікіх знаёмых не прадстаўляюць. Але ўсе пры справе — адпаведна, і пры зарплаце.

Беларуская мадэль ва ўмовах палітычнай канкурэнцыі не ўзнаўляецца. На 70 тысяч чальцоў участковых выбарчых камісій туды ўвайшлі 6 чалавек ад апазіцыйных палітычных партый — і не праз нейкую памылку, недагляд або загадзя спланаваную правакацыю. Не, усё значна прасцей. Як і кожная сацыяльная структура, якая аднойчы сфарміравалася, беларуская мадэль банальна імкнецца выжыць. Яна грае як умее. Патрабаваць ад яе штосьці іншае — бессэнсоўна.

Яе (мадэлі) апошняе захапленне, якое яна для сябе прыдумала на бліжэйшыя 2–3 месяцы, — Усебеларускі народны сход. Ужо шосты па ліку. Тут ёсць дзе разгарнуцца. Магчымасці для фарміравання інфармацыйных нагодаў у ініцыятара яго правядзення практычна неабмежаваныя. Захоча параіцца «з людзьмі пры прыняцці лёсавызначальных для краіны рашэнняў» — няма праблем, толькі паспявай раіцца. А можна разгарнуцца на 180° і зрабіць так, «як вырашыць толькі беларускі народ». Гэта значыць, можна быць вядучым, а можна і кіраваным.

А якія перспектывы адкрываюцца пры абранні дэлегатаў на форум, адна з задач якога палягае ў вызначэнні шляху развіцця дзяржавы ў будучыні! «Гэта — агульнанацыянальны дыялог. Таму прымаць удзел у форуме павінны прадстаўнікі ўсіх слаёў грамадства, усіх сацыяльных і прафесійных груп, патрыятычных аб'яднанняў і партый, дэпутаты ўсіх узроўняў. Дэлегаты павінны быць ад кожнага буйнога прамысловага прадпрыемства. Не толькі кіраўнікі, але і рабочыя ад станка, якія прадстаўляюць працоўныя калектывы», — падкрэсліў адзіны палітык (АП) 16 верасня на сустрэчы з палітычным актывам краіны.




Дыялог, дыялога, дыялогу… для яго паспяховага правядзення па ўсёй краіне ствараюцца дыялогавыя пляцоўкі на базе канструктыўных арганізацый. Пальцаў адной рукі не хопіць, каб іх пералічыць, але калі дадаць мезенец з другой — праблем з пералікам не ўзнікне. Гэта ўсё нашы старыя знаёмыя: Саветы дэпутатаў, прафсаюзы, грамадскія ветэранскія, жаночыя і моладзевыя арганізацыі ды «Белая Русь», якія да іх далучыліся. А больш ніхто і не патрэбны для правядзення паспяховага міжсабойчыку! Не прадстаўнікоў жа “майданутых” і “пратэстуноў” запрашаць на гэтае свята народаўладдзя!

**Эфектыўнасці беларускай мадэлі так званыя «развітыя краіны» павінны зайздросціць, бо эфектыўнасць ёсць паказчык здольнасці дасягаць акрэсленых мэтаў. Галоўнай жа мэтай аўтараў беларускай мадэлі з'яўляецца ўтрыманне ўлады**

### Адступаць няма куды, а наступаць ёсць куды

Ад палітыкі час перайсці да эканомікі, і пачну я з наступнага жыццесцвярджальнага акорду: «Ад сістэмнага руху наперад мы не адступім. Не за гарамі новая пяцігодка, якая мусіць стаць для Беларусі прарыўной. У бліжэйшыя гады краіна павінна ўвайсці ў шосты тэхналагічны ўклад, што азначае далейшае эканамічнае развіццё дзяржавы: уласная энергетыка, экалагічная і канкурэнтаздольная вытворчасць, высокая, на ўзроўні сусветных стандартаў, якасць беларускай прадукцыі».

Пра тое, каб «дагнаць і перагнаць» развітыя краіны, марыў яшчэ правадыр сусветнага пралетарыяту, чые помнікі ўпрыгожваюць галоўныя плошчы беларускіх гарадоў. Сваёй марай ён падзяліўся ў артыкуле з сімвалічнай назвай «Катастрофа, якая пагражае, і як з ёй змагацца».

Прызнаюся, я не знайшоў часу, каб асвяжыць у памяці ленінскія прапановы па барацьбе з катастрофай, якая пагражала. Час — гэта грошы. Навошта яго марнаваць на мінулае, калі сучаснасць такая багатая на арыгінальныя ідэі.

Ядро шостага тэхналагічнага ўкладу, калі хто забыўся, складаюць разнастайныя «нана»: нанаэлектроніка, нанахімія, нанафатоніка, нанаматэрыялы, нанабіятэхналогіі і г.д. Наш шлях у свет «нана» залежыць, перш за ўсё, «ад эфектыўнасці працы кіраўніцтва сілавых структур», на якія ўскладзена задача па «забеспячэнні стабільнасці і дабрабыту нашых людзей».

Дабрабыт — шматзначны тэрмін, асноўным значэннем якога з'яўляецца росквіт, забяспечанасць, спакойнае і жыццё ў дастатку. Для таго, каб усё пералічанае самым бліжэйшым часам увасобілася ў жыццё, кіраўнікі сілавых структур абавязаныя няўхільна выконваць наступнае патрабаванне АП: «З сённяшняга дня, асабліва ў кватэрах грамадзян, куды яны (“майданутыя” і “пратэстуны”. — С. Н.) хаваюцца, мы ў палон нікога не бярэм. Калі хтосьці дакранецца да вайскоўца, ён павінен сысці адтуль як мінімум без рук. Я кажу гэта публічна, каб усе разумелі нашу далейшую рашучасць. Далей усё. Нам адступаць няма куды, і мы адступаць не збіраемся. Хто гатовы — будзем дзейнічаць».

Адступаць няма куды, а наступаць ёсць куды. Трымці, шосты тэхналагічны ўклад! Ты асуджаны! Ад сістэмнага руху наперад мы не адступім! Нездарма ж кажуць, што ў нанатэхналогіях мае поспех той, хто ўмее працаваць галавой. Што тычыцца рук, то яны ў гэтай справе — не памочнікі.

### Тройчы мае рацыю прэм'ер-міністр

Сваё ўменне працаваць галавой днямі прадэманстраваў прэм'ер-міністр Беларусі, які адгукнуўся на адкрыты ліст беларускіх і расійскіх эканамістаў з прапановамі па рэфармаванні беларускай мадэлі.

«Мы чуем вельмі шмат парадаў ад эканамістаў, незалежных эканамістаў, як будаваць эканоміку Беларусі. Мы радыя ўсім парадам, толькі галоўнае, каб яны былі канкрэтныя і прыземленыя, а агульныя рэцэпты з падручнікаў для першага-другога курсу эканамічных ВНУ, прабачце, не трэба», — пракаментаваў кіраўнік урада.

Сярод аўтараў ліста — навуковец з сусветным імем, экс-галоўны эканаміст Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (2015–2019), а ў цяперашні час прафесар у Парыжскім універсітэце сацыяльных навук Science Po Сяргей Гурыеў. Што ж ён і яго калегі параілі беларускаму ўраду?

Спіс з адзінаццаці прапаноў не з'яўляецца таямніцай. Для разумення большасці з іх не патрэбныя ведаў, якія выходзяць за межы «падручнікаў для першага-другога курсу эканамічных ВНУ». Што новага і арыгінальнага, напрыклад, утрымліваюць пункты 2 («незалежнасць судовай сістэмы ад іншых галін улады») і 4 («стварэнне роўных і спрыяльных умоў гаспадарання для ўсіх прадпрыемстваў незалежна ад формы ўласнасці, памеру або галіны»).

А якая практычная карысць беларускай мадэлі можа быць ад пункта 5 («павышэнне эфектыўнасці кіравання дзяржпрадпрыемствамі»), які змяшчае рэкамендацыю падзяліць функцыі дзяржавы як уласніка і рэгулятара? Хіба хто-небудзь з чальцоў урада пярэчыць супраць такога падзелу? Падніміце архівы. Ужо гадоў 10–15 ніхто не пярэчыць.

Тройчы мае рацыю прэм'ер-міністр: ні адну з парадаў немагчыма аднесці да канкрэтных і прыземленых. Праблема, аднак, не ў нізкай кампетэнтнасці дарадцаў, не ў іх адарванасці ад жыцця, а ў своеасаблівасці беларускай мадэлі. У сваім развіцці за чвэрць стагоддзя яна так і не здолела адпавядаць патрабаванням, апісаным у падручніках для першага-другога курсу эканамічных ВНУ. І прычыну гэтага не варта шукаць у недастатковым узроўні адукацыі яе аўтараў.

Адважуся сцвярджаць, што эфектыўнасці беларускай мадэлі так званыя «развітыя краіны» павінны зайздросціць, бо эфектыўнасць ёсць паказчык здольнасці дасягаць акрэсленых мэтаў. Галоўнай жа мэтай аўтараў беларускай мадэлі з'яўляецца… утрыманне ўлады. Будзе ўлада — будзе і дабрабыт. Зразумела, не для ўсіх, але чые гэта праблемы?

Што да разумнікаў, дык не забароніш жа ім рыхтаваць прапановы па рэфармаванні беларускай мадэлі! Неабходна толькі памятаць: тое, што сучасным эканомікам добра, для беларускай мадэлі — смерць.

# Што даў краіне «ўльтыматум Ціханоўскай»?

Сяргей ПУЛЬША

**Пасля «ўльтыматуму Ціханоўскай» адбыліся такія падзеі, якія не дазваляюць казаць, што яе ініцыятыва не мела сэнсу. Канешне, агульнанацыянальны страйк не зладзілі. Але атрымалася нешта іншае, што не дазваляе казаць пра «правал Ціханоўскай» і пра тое, што «ўсё прапала».**




Гэта, напэўна, адно з найбольш істотных адрозненняў у палітычнай сітуацыі «раней» і «цяпер». Раней правал такой ініцыятывы, без сумневаў, прывёў бы да расчаравання, зніжэння актыўнасці, замкнёнасці ў сабе і да абмеркавання ў сацыяльных сетках, як усё кепска і якія нягеглыя лідары пратэсту. Сёлета ж не да канца спраўджаны «ўльтыматум» выклікае пошук новых спосабаў дзеянняў. І амаль ніхто не кажа пра «паразу».

### Пратэст не садзьмуўся

Напрыклад, палітолаг Аляксандр Класкоўскі адзначае: ультыматум спрыяў «пэўнаму ўсплёску палітычнай актыўнасці», што нябдага. «Марш 25 кастрычніка, мусіць, стаў самым шматлікім са жніўня. Былі спробы страйкаваць на шэрагу прадпрыемстваў, у тым ліку і прыватнага сектару, актыўна выступілі студэнты. Гэта быў пэўны імпульс пратэставай актыўнасці. З негатыўных вынікаў — не ўдалося зладзіць усеагульны страйк, і цяпер у часткі тых, хто хоча пераменаў у Беларусі, можа быць момант нейкай фрустрацыі. Тым больш, што марш на Курапаты стаўся, з шэрагу прычын, не самым шматлюдным. І афіцыйная прапаганда атрымала, напэўна, падставу сказаць, што "пратэст садзьмуўся", ці здзімаецца, і што ўлады паступова стабілізуюць сітуацыю», — кажа Класкоўскі.

Але, з іншага боку, калі паглядзець на сітуацыю рэтраспектыўна: ці не занадта мы прывычаіліся да добрага? Яшчэ год таму ў шэсці на Дзяды прынялі ўдзел максімум паўтары тысячы чалавек, а на недазволены «Чарнобыльскі шлях–2019» прыйшло некалькі дзясяткаў (!) удзельнікаў. Цяпер мы лічым «не самай шматлюднай» акцыю, на якой не назбіралася сто тысяч чалавек.

Казаць пра тое, што «пратэст садзьмуўся», мы зможам толькі тады, калі колькасць удзельнікаў пратэставых акцый вернецца да звыклай нам «апазіцыйнай тусоўкі». А гэтага наўрад ці варта чакаць бліжэйшым часам.

### «Улада нервуецца»

Адным з нечаканых рашэнняў пасля «ўльтыматуму Ціханоўскай» сталі перастаноўкі ў сілавых структурах. Былы ўжо кіраўнік МУС Караеў выправіўся ў якасці прадстаўніка Лукашэнкі ў Гродзенскую вобласць. Вакульчык з пасады дзяржсакратара Рады бяспекі Беларусі паехаў такім жа прадстаўніком на Брэстчыну. Месца міністра МУС заняў былы начальнік галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама Іван Кубракоў, а на яго месца прыйшоў Міхаіл Грыб, які да гэтага ўзначальваў УУС Віцебскага аблвыканкама.

Гэта вельмі дзіўная ратацыя, асабліва ўлічваючы напружаную сітуацыю ў краіне: як вядома, коней на пераправе не мяняюць. Але тут раптам змянілі.

Аляксандр Класкоўскі не лічыць, што гэта наўпрост звязана з ультыматумам Ціханоўскай. Але, па яго словах, адстаўкі сведчаць, што «сістэма Лукашэнкі знаходзіцца ў крызісе, і там ідуць няпростыя і непажаданыя для яго працэсы». «У тым ліку Лукашэнка, напэўна, не надта ўпэўнены ў поўнай адданасці тых ці іншых персаналій, і ўвогуле, ён, на мой погляд, нервуецца, мітусіцца і робіць сутаргавыя непаслядоўныя рухі, у тым ліку і ў кадравых пытаннях. Цяжка патлумачыць, нашто было таго ж Вакульчыка на два месяцы прызначаць сакратаром Рады бяспекі, а потым кідаць на Брэстчыну», — зазначае палітолаг.

З іншага боку, было заўважана, што менавіта «наноў прызначаныя» найбольш шчыруюць у рэпрэсіях і выкананні загадаў пакуль яшчэ кіраўніка краіны.

«Натуральна, гэтае меркаванне — што новая персона будзе старацца, ірваць жылы і даводзіць, што не дарэмна правадыр на яе зрабіў стаўку, — заўжды прысутнічала ва ўсіх кадравых прызначэннях. У прынцыпе, гэта сталінскі метад: уліваць свежую кроў і рабіць своеасаблівую ратацыю кадраў. Але, я думаю, што ад персаналій на чале сілавых, у прыватнасці, ведамстваў, няшмат што залежыць — у сэнсе ад асаблівасцяў іх характару альбо нейкіх службовых і асабістых якасцяў. Чалавек у гэтым выпадку — вінцік сістэмы, і ён будзе праводзіць такую палітыку, якую загадае праводзіць Лукашэнка. Таму няма сэнсу гадаць, зыходзячы з асабістых якасцяў новага міністра МУС Кубракова, ці будзе ён мякчэйшы, ці, наадварот, болей жорсткі. Гэта будзе залежыць ад Лукашэнкі, а той будзе арыентавацца на кан'юнктуру», — кажа Аляксандр Класкоўскі.

Сітуацыя, на думку аглядальніка, можа падштурхнуць як да болей жорсткіх рэпрэсій, так і для нейкага нібыта змякчэння і лавіравання. «Таму што нядаўна і Пуцін выказаў стрыманую незадаволенасць, сказаўшы, што беларускія сілавікі, можа, занадта жорсткія былі, і тады тыя, хто гэта дапусціў, павінны панесці адказнасць. Не выключана, што пачнецца нейкае манеўраванне ў гэтым пытанні, — але не таму, што Кубракоў вырашыць быць больш мякчэйшым. Для Лукашэнкі гэта — расходны матэрыял. Ён мог прыбраць Караева, таму што "маўр зрабіў сваю справу" цягам гэтых пары месяцаў пасля выбараў. Гэты чалавек ужо запэцканы, у тым ліку і крывёю. І нават калі што, праз нейкі час, калі давядзецца адступаць і ахвяраваць нейкімі персонамі, можна будзе сказаць: "Вось, мы ж яго ў свой час адхілілі, былі злоўжыванні, мы адрэагавалі"», — зазначае аналітык.

### «Пры пажары шыбаў не шкадуюць»

Пасля таго, як Лукашэнка загадаў звальняць усіх пратэстоўцаў, па Беларусі пракацілася хваля даволі балючых рэпрэсій: адлічэнні студэнтаў і звальненні рабочых. Але грамадства зноў адказала на рэпрэсіі салідарнасцю. Напрыклад, каля 150 выкладчыкаў БДМУ выказаліся супраць адлічэння студэнтаў, дэканы асобных факультэтаў у ВНУ адмаўляліся падпісваць загады аб адлічэнні па палітычных прычынах. А з БелАЗу прыйшла ўвогуле фантастычная навіна: работнікам прадпрыемства, раней звольненым за страйк, прапанавалі напісаць заявы аб аднаўленні на працы!

Аднак навіны з БелАЗу, на думку Класкоўскага, не азначаюць, што ў падыходзе персанальна Лукашэнкі нешта змянілася. «Пазіцыя Лукашэнкі застаецца жорсткай: ён апошнім часам неаднойчы паўтараў, што трэба ўсіх выкідаць: рабочых, якія страйкуюць, студэнтаў, якія бунтуюць: маўляў, мы без іх абыдземся. Увогуле, у Лукашэнкі сёлета пазіцыя такая: пры пажары шыбаў не шкадуюць. Думаць, што ён будзе перажываць за якасць адукацыі ці за тое, што з нейкага прадпрыемства выкінуць кваліфікаваных рабочых, — наіўна. Для яго галоўнае — уласнае выжыванне. Ён нават быў гатовы паклікаць войскі Пуціна ў Беларусь, хаця гэта самае святое — абарона незалежнасці, і ён шмат гадоў маляваў сябе менавіта гарантам незалежнасці. Таму тут сантыментаў з боку правадыра рэжыму чакаць не выпадае», — гаворыць палітолаг.

Аднак і ў рэпрэсіях ёсць нейкая мяжа, адзначае адмыслоўца. «Таму што могуць і пэўныя вытворчасці спыніцца, калі бязлітасна вычышчаць рабочых. Гэта будзе выклікаць рост незадавальнення ў грамадстве, і вонкавыя фактары таксама ціснуць. Бо і Захад будзе ўзмацняць санкцыі, і Масква будзе ўшчуваць Лукашэнку больш рашуча, і эканамічная сітуацыя будзе пагаршацца», — заўважае Класкоўскі.

### «Масква вядзе працу па пашырэнні ўплыву на Беларусь»

Таксама пасля «ўльтыматуму Ціханоўскай» неяк незаўважанай прайшла заява лідара расійскай ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага. Ён сказаў, што Лукашэнку трэба адправіць кіраваць калгасам. Шматлікія аглядальнікі даўно заўважылі: што ў Пуціна на розуме, то ў Жырыноўскага на языку. Даволі відавочным стаў трэнд расійскіх тэлеканалаў, якія раптам пачалі крытыкаваць Лукашэнку. Ці азначае гэта змену стаўлення Крамля да асобы пакуль што кіраўніка Беларусі?

«Сапраўды, я думаю, што Жырыноўскі трымае нос па ветры і адчувае, што стаўленне Крамля да Лукашэнкі цяпер крытычнае і скептычнае, нават нягледзячы на тое, што Пуцін у жніўні Лукашэнку падтрымаў. Тады спрацавала, як зрабілі выснову аглядальнікі, «салідарнасць аўтарытарных лідараў». Цяпер жа, чым далей, тым болей, Крэмль выказвае незадаволенасць — многімі намёкамі. Ёсць шэраг сімптомаў, што паказваюць: Крэмль сапраўды б хацеў, каб не ў выніку каляровай рэвалюцыі, але ў выніку канстытуцыйных зменаў адсунуць Лукашэнку ад улады», — кажа Класкоўскі.

Магчыма, па словах палітолага, Крэмль у гэтым кірунку дзейнічаў бы больш рашуча, калі б ён выразна бачыў, на каго тут можна зрабіць стаўку ў якасці пераемніка Лукашэнкі. Але пакуль такіх фігур не знаходзіцца. «Традыцыйная апазіцыя здаецца ім занадта празаходняй і нацыяналістычнай. Што тычыцца новай апазіцыі, то Крэмль пакуль не хоча кантактаваць з Ціханоўскай і яе камандай, — не раз гучалі закіды з вуснаў Сяргея Лаўрова, кіраўніка расійскай дыпламатыі, ды прэс-сакратара Пуціна Пяскова, што, маўляў, у Ціханоўскай антырасійская праграма. Гэта фэйк, але яны яго раз за разам перажоўвалі», — заўважае палітолаг

Такім чынам, Масква зандуе глебу і, на думку адмыслоўца, засяродзілася на ўмацаванні інфраструктуры свайго ўплыву ў Беларусі. «Дзеля гэтага ў яе інтарэсах, каб тут адбылася канстытуцыйная рэформа, каб былі болей размеркаваныя паўнамоцтвы паміж рознымі галінамі ўлады, каб быў створаны абсяг для развіцця партый, каб потым можна было ўплываць на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Беларусі праз адну ці некалькі прарасійскіх партый», — лічыць Класкоўскі.

### Прагназаванню не паддаецца

Як будзе развівацца сітуацыя надалей? Гэта спрагназаваць ніхто не можа, бо цяпер, па словах Класкоўскага, «дзейнічае шмат дынамічных чыннікаў, якія хутка змяняюцца, іх цяжка прадбачыць і прадказваць». «Пэўна, паколькі сезон становіцца халаднейшы, ёсць момант псіхалагічнай стомленасці, і рэпрэсіі адгукаюцца — магчымы часовы спад вулічнай актыўнасці. Менавіта вулічнай, бо наўрад ці будзе спад незадаволенасці вялікай часткі грамадства Лукашэнкам і яго палітыкай», — кажа ён.

Але гэта, насамрэч, не трагедыя. «Магчыма, недзе ў лютым-сакавіку будзе новая хваля пратэстаў: паводле прагнозаў шэрагу эканамістаў, менавіта тады могуць пачацца сур'ёзныя крызісныя з'явы ў эканоміцы. І мы не ведаем ступені працэсаў эрозіі ўнутры сістэмы. Магчыма, мы недаацэньваем, наколькі сістэма пайшла расколінамі. Лукашэнка нервуецца, кажа пра «здраднікаў», ёсць звесткі, што звальняюцца кваліфікаваныя кадры з сілавых структур. Калі большасць вертыкалі маўчыць — гэта яшчэ не сведчыць пра тое, што ўсе там у захапленні ад палітыкі Лукашэнкі. Магчыма, што ступень трываласці сістэмы не надта і вялікая. Таму, верагодна, нейкія змены адбудуцца нават хутчэй, чым думаюць аналітыкі», — заўважае эксперт.

А яшчэ варта зазначыць, што наперадзе ў нас чарговая электаральная кампанія. Мясцовыя выбары ў Беларусі павінны прайсці не пазней за 18 студзеня 2022 года, а значыць, кампанія пачнецца ў 2021-м. Улічваючы незвычайную актыўнасць насельніцтва ў дваровых чатах і тэлеграм-каналах, а таксама палітызаванасць грамадства, гэта будзе вельмі цікавай падзеяй.

# «Я бачыў белыя сцэны, калі

**Увечары 9 жніўня Віталь Паўлючэнка, 43-гадовы, інжынер-будаўнік з Мінска, вяртаўся з працы. Але дахаты ў той вечар так і не трапіў: замест гэтага — аўтазак, Акрэсціна, ЛПП у Слуцку...**

— 9 жніўня, выбары. Мы прагаласавалі і сфатаграфаваліся з белай стужкай на руцэ — дачка прыгожа зрабіла.

Увечары чалавек 200 выйшлі да 53-й школы і чакалі, калі нам вынесуць вынікі. Выбарчая камісія з чорнага ходу выбегла і села ў сіні бус. Мы падбеглі да іх, крычалі: «Ганьба!» Потым нейкі хлопец пачаў фарбай гэты бус абмазваць. Калі міліцыя прыехала, усе разбегліся. Мы пайшлі да плошчы Бангалор, але там нікога не было — вярнуліся дадому.

У панядзелак — на працу. Далі заданне ўначы выйсці — на Чкалава мост у крытычным стане, крайнія бэлькі трэба было падперці. Мы масты будуем. А я — старшы прараб. Матэрыялы сабралі, кран замовілі. Чакаем. Недзе ў шэсць патэлефанаваў галоўны інжынер: «Падзеі храновыя, дзяржслужба забараніла кудысьці выязджаць увечары». А мне ж трэба было яшчэ з Шабаноў паехаць у Чыжоўку, забраць кранаўшчыка, каб ён забраў кран і падпісаў дакументы.

Дзесьці ў сем — палову на восьмую я ўжо сабраўся ехаць дадому, да ГЦ «Рыга». Жонка патэлефанавала: «Віталік, не прыязджай: тут у нас збіраюцца барыкады рабіць». А інтэрнэт адключаны быў, я нават пачытаць нічога не змог. Вырашылі, з'ездзім пакуль на аб'ект, я хоць калегу ўвяду ў курс справы. Потым вырашылі ехаць да мяне.

Каталіся, каталіся да гадзінак адзінаццаці — паўсюль перакрыта. Дзесьці сігналілі машыны. Мы таксама пасігнальвалі. Ну, цікава было. Мая жонка ўсё кажа: «Не прыязджай, тут вайна нейкая: узрываецца, страляюць па вокнах». Ну што рабіць, нідзе не пускаюць машыны. Кіроўцу адпусцілі, самі вырашылі, пешшу пойдзем, праз двары прабярэмся. А потым двары закончыліся — у нас насупраць была стэла.

Людзі стаяць на ўзгорку. Машын няма, ДАІ няма. Ідзём да моста праспектам Машэрава. Аўтазак стаіць. І з аўтазака выбягаюць, напэўна, шэсць амапаўцаў. Падбягаюць двое — і давай нас біць. Потым яшчэ двое падбеглі — і мне як далі! Глядзяць, напэўна, што вялікі. Далі ў калена берцам. Нага сагнулася ў другі бок, уяўляеце. Звязкі ўсе парваныя. Я адразу ўпаў. Б'юць па спіне. Папрасіўся: «Не біце, калі ласка». Тлумачу, што з працы ішлі. Яны: «Пакажыце тэлефоны».

Пачынаюць фоткі глядзець. І ўбачылі тое фота, дзе я са стужкай. «Дык вось вы за каго! Вы ўдзельнічаеце ў мітынгу!» Зноў пару разоў дубінкай атрымалі па спіне. Вельмі лаяліся мацюкамі. Кажа іх галоўны: «Давай у аўтазак іх». А я ўстаць не магу.



Ён на майго калегу: «Бяры яго пад рукі». Нас у аўтазаку тварам у падлогу, не падымаць галаву, рукі за спіну.

Дзесьці праз хвілін 40 сказалі выходзіць. Амапавец хоча ўдарыць, я адчуваю. Прашу: «Не бі, у мяне нага хворая, зараз упаду тут, увогуле разаб'юся». Ён не крануў. Мы апынуліся на Акрэсціна. Гэта была, напэўна, гадзіна ночы.

Нас усіх, чалавек 250, выстраілі да сцяны каля плоту. Міліцыі вельмі шмат, чалавек пад 50. Амапаўцы потым сабраліся і з'ехалі. Калі ўсіх паставілі на калені, я папрасіўся: «Не магу стаяць», боль вар'яцкі. Міліцыянтка дазволіла: «Прысядзьце тады на бардзюр. Толькі апусціце галаву, бо не любяць, каб глядзелі». Але я падглядаў — цалкам па перыметры агароджы стаялі людзі на каленях, і рукі былі на плоце. Потым яны да кожнага падыходзілі з камерай: дзе затрымалі, прозвішча...

Прыязджала «хуткая», паглядзелі нагу, сказалі, што расцяжэнне. Мяне потым пасадзілі ў альтанку, таксама з апушчанай галавой і рукамі ззаду. Кожны міліцыянт лічыў сваім абавязкам спытаць: «А чаго ён тут сядзіць, я не зразумеў?».

Я там трошкі агрызаўся з міліцыянтамі. «Дарослы дзядзька, чаго ты тут?» — «З працы ішоў». — «Вы ўсе кажаце, што з працы». — «Я кажу, з працы». Заткнуўся і пайшоў. Такі рыжы быў, г...ністы. Падыходзіў і хлопцаў яшчэ ні за што... Потым, калі забіраў свой тэлефон, сказаў, што добра яго запомніў, — ён адразу прыціх. А там ён героем ходзіць.

Праз гадзіны 2–3 толькі пачалі нас запускаць. Памяшканні 4х4, пад адкрытым небам. Зверху хадзілі снайперы. Адразу там было чалавек 50, на наступны дзень, хлопцы казалі, нават па 120 чалавек стаялі, шчыльненька. Людзі проста суткі стаялі, сядзелі, нават ляжалі адзін на адным на гэтай бетоннай падлозе. Зрэшты, яе цяжка назваць

**«Людзі проста суткі стаялі, сядзелі, нават ляжалі адзін на адным на гэтай бетоннай падлозе. Зрэшты, яе цяжка назваць бетоннай — яна разбураная. Убачыць гэта, вядома, страшна»**

# Псіхолаг: Сілавікам даводзяць, што гвалт

**Адкуль такая жорсткасць у сілавікоў да мірных пратэстоўцаў? Пагаварыць пра гэта reform.by вырашыў з Людмілай Зеніч, украінскім псіхатэрапеўтам, якая праводзіла групавыя кансультацыі з супрацоўнікамі «Беркута» (аналаг АМАПа). Тым самым «Беркутам», які адзначыўся на Майдане ў 2013–2014 гадзе.**

***— Людміла, вы праводзілі групавыя кансультацыі з сілавікамі. Якія гэта былі людзі?***

— Абсалютна розныя. Гэта была групавая праца з запытам з іх боку. У першую чаргу, гэта былі разгубленыя людзі. Самыя падонкі, якія аддавалі загады, збеглі. Засталіся тыя, хто іх выконваў. Яны былі разгубленыя і не разумелі, як адбылася рэвалюцыя. У іх была і разгубленасць, і прыкрасць, і пачуццё віны. А потым — і пачуццё здрады з боку сваіх жа таварышаў.

***— Здрада ў чым палягала?***

— Сілавікоў трэніруюць на тое, каб абараняць адзін аднаго і выконваць загады. У любой групе, якая трэніруецца як група, ёсць адчуванне адзінства і пляча таварыша. Да мяне звярталіся сілавікі і крыху пазней, калі Расія прывяла свае сілы на вайну на Данбасе. Сярод тых, хто ваяваў з расійскага боку, многія пазнавалі сваіх аднакурснікаў, з-за гэтага яны адчулі здраду. Маўляў, як можа таварыш страляць і біць сваіх жа?

***— Жорсткімі сілавікоў робіць сама сістэма?***

— Многія сілавікі вучыліся ў адпаведных навучальных установах. Сама структура адукацыі ў сілавых ведамствах заточаная на выкананне загадаў і поўнае падпарадкаванне. У падраздзяленнях таксама праходзіць штодзённая псіхалагічная падрыхтоўка. Кліенты казалі, як іх напампоўвалі, што мітынгоўцы — злачынцы, і да іх можна ўжываць сілу. За кошт гэтага ў людзей асімілюецца сумленне. Каб чалавек мог падняць руку на іншага чалавека, важна яму стварыць умовы адчужанасці і бесчалавечнасці. Мітынгоўцы ў такім выпадку становяцца элементам



пагрозы. Абараніць сваё жыццё і сваё звыклае існаванне — гэта частка матывацыі сілавікоў.

***— Атрымліваецца, для іх гвалт — гэта штодзённасць у іх сістэме?***

— Я не працавала ў структурах МУС, але там працавалі многія мае калегі. Наколькі я разумею, у пэўнае падраздзяленне набіраюць людзі, у якіх узровень тэстастэрону вышэйшы, чым у звычайнага чалавека. Да іх належаць не толькі сілавікі, гэта і людзі, у якіх павышаны ўзровень патрэбы ў небяспецы. Патрэбу ў агрэсіі можна параўнаць з патрэбай хацець быць пераможцам. Калі не практыкаваць, выбар, калі чалавек не навучаны шукаць сацыяльна прымальныя формы (спорт, адзінаборствы, небяспечная праца пажарным), а яшчэ адбываецца накладанне ідэалагічных рэчаў, тады гэта выліваецца ў жорсткасць і дэструктыўныя формы паводзін.

Ёсць нармальнае жаданне ў мужчыны атрымаць дозу адрэналіну і перамагчы, выпрабаваць сябе, але калі ў яго адключаная функцыя выбраць іншы спосаб гэта зрабіць, то ўсё пераходзіць у гвалт. А сілавікам яшчэ і даводзяць, што гвалт у дачыненні да мітынгоўцаў — гэта карысна.

***— Гэта значыць, яны лічаць, што робяць карысную справу, збіваючы людзей?***

— Так. Яны шчыра думаюць, што змагаюцца з выродкамі з пекла, і наогул яны на баку дабра. Сілавікі так і характарызуюць сваю працу — што змагаюцца яны за дабро. Трэба разумець, што сярод кіруючага складу ёсць свядомыя садысты. І менавіта яны кіруюць падпарадкаванымі хлопцамі. Частку з іх ва Украіне арыштавалі, частка збегла — і некаторых бачылі на падаўленні пратэстаў у Маскве і ў Мінску (журналісты ўжо не раз выяўлялі былых "беркутаўцаў" сярод беларускага АМАПу. — Заўв. reform.by).

***— Гэтых людзей садыстамі робіць сістэма, або яны былі такімі з дзяцінства?***

— Тут няма альбо-альбо. Важна разумець, што людзі праходзяць праз негатыўнае сістэмнае сіта. Няма выразнага адказу, чаму яны сталі садыстамі, тут бывае і такое, што сама сістэма на этапе навучання робіць іх такімі, а бывае, што садыстамі яны сталі з-за цяжкіх псіхалагічных траўмаў дзяцінства.

# выйшаў — усе ў крыві»

бетоннай — яна разбураная. Убачыць гэта, вядома, страшна.

Я дзесьці гадзіну пастаяў з хлопцамі, потым кажу: «У мяне, напэўна, зараз галава закружыцца». Яны пастукалі: «Чалавеку кепска, дайце крэсла». Тыя адчынілі праз хвілін дзесяць, вывелі мяне ў калідор, куды ўсе камеры выходзяць.

Пасадзілі на крэсла мяне і яшчэ аднаго хлопца. Проста ў калідоры. Хлопец таксама не мог стаяць. Яму галаву пабілі — ён не адчуваў палову галавы, рука была сіняя. І стрэлілі ў нагу, у жывот і вышэй сэрца. І галоўнае, ірваных ранаў не было: такая чорная пляма, а вакол сантыметраў 10 сіняк. Там забаранялі размаўляць, але калі яны сыдуць... Самае цікавае, яны сыходзяць, а потым яшчэ вяртаюцца і глядзяць на нас. Каб мы не ўцяклі, ці што?

Назіралі. Людзі стукаюцца, просяцца ў туалет. Выводзяць 15–16 чалавек, лічаць — усё, ты лішні. Заводзяць усіх у туалет — памяшканне дзесьці 3х2. Людзі прасілі бутэлькі вады набраць — давалі ім бутэлькі пустыя. Потым наступных 15 чалавек. Пакуль апошнюю камеру давядуць, ужо першая хоча зноў у туалет. Плюс 2–3 чалавекі бачыў, якія не датрывалі «па вялікай патрэбе».

Потым адбыўся адзін выпадак такі. Дзесьці на другім паверсе людзі крычалі «Выпускай!». Як лозунг. Хвілін пяць крычалі. Праходзіць начальнік праз калідор, міліцыянтаў дзесьці 30–40, кожны з дубінкай. Нас з крэсламі — у камеру да хлопцаў. І чуем: выводзяць гэтых хлопцаў, ставяць на калені. І як адлупцавалі іх... Крычалі, бедныя. «Каго выпускаць? Ты хочаш, каб цябе выпусцілі?» Мацюкаюцца. Адзін хлопец крычыць: «У мяне ныркі, не бі!» — і той б'е знарок па нырках. Потым яны нас дваіх з крэсламі вывелі назад. Я бачыў белыя сцены, калі выйшаў — яны былі ўсе ў крыві.

Супрацоўнікі Акрэсціна спакойна ставіліся, я з імі быццам і пазнаёміўся. Прынёс адзін тры кавалачкі хлеба і бутэльку вады нам. І потым яшчэ прынёс пакет капусты квашанай. Мы з пацаном перакусілі крыху, потым, калі хлопцы з прыбіральні ішлі, я першаму, які папаўся, аддаў капусту.

Лекарка прыходзіла кожныя 20–30 хвілін. Проста былі хлопцы-сардэчнікі. Былі хлопцы, якім трэба інсулін калоць. Былі эпілептыкі. Праз паўгадзіны да яго прыйшоў лекар, яшчэ праз паўгадзіны ў яго зноў прыступ. Гэтая доктарка проста здзекавалася: «А вы не колецеся? А вы не п'яце?»

Увесь дзень 11 жніўня мы праседзелі, а холадна, я ў майцы адной, дый тая падзёртая, дзесьці ў адзінаццаць вечара толькі нас завялі ў камеру. Міліцыянт зайшоў сам: «Хлопцы, пакладзіце яго, у яго з каленам праблемы». У камеры сядзелі чалавек 20 — усе ў фінгалах, пабітыя, спіны, азадкі сінія, хто кульгае, у каго палец зламаны. Здымалі штаны — хтосьці смяяўся, хтосьці плакаў. Стагналі людзі. У аднаго хлопца ногі былі так адбітыя... Ён усё абліваў штаны вадой, каб неяк боль суняць. Аднаму чалавеку таксама было кепска. Ён быў на ўліку дзесьці ў Навінках, яго павінны былі ўвечары забраць, але прыехалі толькі праз суткі.

Хлопцы шашкі прыдумалі з чорнага хлеба, квадратныя — белыя, а круглыя — чорныя. Я першае месца заняў у шашках, яшчэ калі ў школе вучыўся. Таксама хацелася з імі пагуляць, але нага баліць, не ўстанеш, не пасядзіш. Удзень ужо сядзіш, вядома, каб хлопцы ўсе селі.

Вельмі дрэнна спалася. Голыя дошкі. Хтосьці хроп. Круціўся кожныя 10–15 хвілін. Перавернешся — здаецца, так не ные нага. Потым зноў. Астатнія хлопцы пад ложкам, на падлозе. Нас 25 чалавек было, а камера на чатырох. Каронавірус яшчэ — гэта ў мяне заўсёды ў галаве было.

Святло ўвесь час гарэла. Прасілі крыху прыглушыць — нельга. У абед далі суп. Я 2–3 лыжкі з'еў, але не хацелася. Калі кармілі апошні раз, далі нам пяць талерак кашы на 25 чалавек — дзяліце. Гарбату давалі. Заварка ёсць быццам, а на руку ліну — гарбата белая. Проста хацелася чаго-небудзь гарачага, але яна летняя была, а ўсё роўна было прыемна. Разумееце, там, каб «па вялікай патрэбе» схадзіць, трэба прысесці, а ў мяне нага. Карацей, дзесьці трое сутак не еў.

Увечары 12 жніўня нас павялі на суд. Амапавец, такі дзядзька тоўсты, усіх прымушаў бегчы гэтых 4–5 паверхаў, да суда і назад. Некаторым рукі заломваюць, яны сцяжкамі такімі пластыкавымі скутыя, — і ледзь не да каленяў галава.

Памочніца суддзі ў мяне спытала, ці патрэбен адвакат. Я адмовіўся. Суддзя расказаў сітуацыю, яна кажа: «Мы вам дамо 13 сутак». «Ну навошта?» — кажу. — Я ж начальнік участка, масты будую. Вось на Жукава эстакаду трохузроўневую я пабудаваў, мне за гэта Ладуцька, ён яшчэ мэрам быў, медаль уручыў. Дайце хоць 10». «Будзеце выступаць, зараз 15 дам». І слёзы ідуць. Гэта ж на ўсё жыццё застаўся адбітак.

На наступны дзень вывелі ў гэтую малпоўню зноў, пад адкрытае неба. Мы чакалі гадзіны 3–4. Потым зноў называлі прозвішчы, выводзілі ў двор — збіралі па 25 чалавек, каб садзіць у аўтазак. Амапавец падышоў да мяне: «Дзядзька, што з табой здарылася?» Ён забраў мяне з сабой, папрасіў амапаўцаў дапамагчы мне забрацца. І хвілін 10 я ўжо сядзеў у аўтазаку, а потым хлопцы зайшлі.

А калі выязджалі, валанцёраў шмат каля Акрэсціна, усе пляскаюць. Потым павярнулі і на праспект, на Брэст — столькі людзей, і ўсе кветкі трымаюць. І так сляза прабіла. Гэта афігенная падтрымка! Але было вельмі крыўдна, што так з нашага беларускага народа здзекуюцца.

Амапаўцы прыязныя трапіліся: дастае адзін пачак цыгарэт... Проста ў аўтазаку чалавек 20 сядзяць і кураць, дым слупам. Пазней той самы амапавец падышоў да мяне: «Можа, нешта хочаш перадаць?» Кажу: «Жонцы званочак адзін». Так жонка даведалася, што я ў Слуцку.

Прывезлі нас у Слуцкае ЛПП, а там унутраныя войскі, з аўтаматамі. Завялі ў душ, мыла далі. Ручнікоў не было, я майкай жа і выцерся. Потым завялі ў вялікую казарму, дзесьці чалавек на 250 было. Быў нават тэлевізар у другім адсеку.

У пятніцу, 14 жніўня, аб'яўляюць: «Будзем вас, хлопцы, адпускаць. Толькі трэба падпісаць нейкія паперы». Мауляў, калі раптам зноў будзеш удзельнічаць у мітынгу, гэта ўжо будзе крымінальная справа. Я ўсё думаў, падпісваць — не падпісваць. Шчыра, мне так не хацелася гэтыя 13 сутак даседжваць — падпісаў. Куды ўжо я з каленам пайду.

Выходзіў амаль апошні. Далёка па бетонцы ідзеш, а там валанцёры чакаюць. Галаву апусціў, і так сорамна. Можа, за тое, што слёзы былі на вачах. І што кульгаў: здаровы мужык, а кульгае. А мне калена памазалі, забінтавалі, укол зрабілі, паесці далі, гарбаты, кавы. Я патэлефанаваў брату... І адразу як заплакаў... А ён за метраў 30 ад мяне быў, падышоў, абняў. Потым нават гонар быў нейкі. Я хачу, каб наша краіна жыла.

А пасля тэлефаную жонцы, кажа: тэрмінова сёння зняць пабоі. Мы з братам прыязджаем у БХМД. Траўматолаг выцягнуў вадкасць з калена — 35 грамаў. Мне крыху лягчэй стала. І гіпс наклалі.

Цяпер ёсць такая праблема, што не магу на калена стаць. А так... Трохі кульгаеш, трохі цягне. На машыне пакуль не езджу, праблем няма. Мне яшчэ пашанцавала, што ў мяне калена: яны глядзелі, што я кульгаю, што майка парваная, і ўжо больш лаяльна ставіліся. Ну а з псіхалагічнага пункту гледжання нейкі страх прысутнічае.

На бальнічным правёў больш за месяц. На працы кажуць: «Калі ты ўжо вернешся, засумавалі».

Гэтыя выбары многае змянілі. Мы з жонкай перасталі глядзець усе беларускія каналы. Так хлусяць... Як я раней усё гэта глядзеў?! Мне яшчэ сябра пастаянна расказваў, я яму не верыў. І палітыкай пачаў цікавіцца тады, калі Бабарыка пайшоў у выбірацца. Я ж у ініцыятыўнай групе Віктара Бабарыкі быў, я больш за 100 подпісаў сабраў. І яшчэ да гэтага блогер Ціханоўскі расказваў, як у краіне добра жывецца. Я падпісаўся.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# да мітынгоўцаў — гэта карысна

Паводле Канстытуцыі, сілавікі могуць не выконваць злачынныя загады, але парадокс у тым, што самі ўсвядоміць яны не могуць, што ёсць злачынны загад, а што не. Здзяйсняць выбар вельмі страшна, асабліва чалавеку, які працуе ў сілавой сістэме, дзе выбар ажыццяўляць нельга. Гэты чалавек не навучаны выбіраць.

***— У Беларусі на мітынгах жанчыны падыходзілі да сілавікоў, глядзелі ім у вочы. Пыталіся пра сумленне і дарылі кветкі. Гэта наогул неяк дзейнічае на іх?***

— Гэта выклікае ў іх унутраны канфлікт. І гэта можа прыводзіць да розных вынікаў. Вы павінны зразумець, што сам ён лічыць сябе добрым салдатам і лічыць, што ён на баку дабра. Калі ўзнікае супярэчнасць у яго карціне свету, тады, з аднаго боку, добра, што ў ім нараджаецца сумнеў, але, з другога боку, на першым этапе гэта можа выклікаць яшчэ большую агрэсію. Таму што ён будзе абараняць сваё ўяўленне аб свеце. У нас быў досвед, калі мы, псіхолагі, раздавалі цукеркі цітушкам. Гэта былі нанятыя людзі, якім сказалі папрацаваць праваката-рамі, яны яшчэ і жорстка збівалі людзей. Мы глядзелі ў вочы гэтым людзям і частавалі іх. Я ўбачыла разгубленасць у вачах гэтых людзей. Яны казалі, што гэта атручаныя цукеркі, не можа быць, каб іх частавалі звычайнымі цукеркамі. Я ўбачыла ў іх вачах яшчэ і страх. Гэтыя людзі — ахвяры маніпуляцый.

Хтосьці з іх прызнае, што трапіў у пастку. А хтосьці не дазваляе сабе гэта ўбачыць і кажа: «Гэта няпраўда». Для іх важны гонар прыналежнасці да сілы ў сваім падраздзяленні. Мітынгоўца не можа быць добрым. Таму што калі я прызнаю, што ты добрая, а я цябе б'ю, то я буду дрэнным. Вы павінны зразумець, што сілавыя ведамствы — гэта добра прапрацаваная структура. Іх вучаць ламаць людзей, вучаць дапытваць і вучаць правільна псіхалагічна здзекавацца з людзей.

***— Але ж маніпуляваць свядомасцю магчыма не з кожным чалавекам...***

— Можна маніпуляваць любым чалавекам. У іх ёсць заробак, службовая кватэра, трынаццаты заробак. Ім цяжка адмовіцца ад таго, што ў іх ужо ёсць. І нават калі чалавек усведамляе, што ён робіць штосьці не тое, ён ужо знаходзіцца ў пастцы. Важна разумець, што чалавек, які трапляе ў сілавыя структуры, — трапляе ў пастку. Сілавая структура — гэта інструмент дзяржаўнай улады. Я калі з імі пагутарыла, зразумела, што яны закладнікі. «Беркут» як структура была забяспечаная добрымі спецыялістамі, але выкарыстоўвалі яе супраць уласнага народа. Яны сапраўды ўмеюць лавіць злачынцаў, але з элітнага падраздзялення яны ператварыліся ў злачыннае. Сілавікоў прымусілі выканаць злачынныя дзеянні. Яны шчыра верылі, што яны эліта. І тут у іх забралі прадмет гонару, што выклікала велізарны ўнутраны канфлікт.

Іх не любяць, нейкая частка з іх пайшла абараняць Украіну, а нейкая была дэмаралізаваная. Я гутарыла з некаторымі з іх на тэрапіі. Яны вераць свайму камандзіру. Вонкава гэта дужыя спартовыя хлопцы, а эмацыйна яны яшчэ зусім дзеці.

***— Чаму ўвогуле чалавек становіцца садыстам?***

— Тут важны працэнт схільнасці да садызму, які вызначаецца шматлікімі фактарамі. Важнае асяроддзе, у якім чалавек расце. Калі там лічыцца нармальным здзекавацца з катоў або сабак, то і дзіця прымае гэта за норму. Прыняць дзіцяці, што забіваць сабак — добра, гэта таксама траўма. Заганны круг абставінаў.

***— Атрымліваецца, чалавек з дэструктыўнай сям'і схільны ісці ў сілавыя структуры?***

— Напэўна, няправільна абагульняць і казаць, што ўсе сілавікі з дэструктыўных сем'яў. Але такому чалавеку прасцей за ўсё пайсці ў сілавыя структуры. Сярод маіх кліентаў былі тыя, хто з дэструктыўных сем'яў. Былі тыя, хто назіраў у дзяцінстве, як бацька б'е маму. Дзіця абараняла маму, было добрым. Быў адзін кліент, вельмі добры, але ён прыйшоў з запытам, як не стукнуць сваю двухгадовую дачку. Таму што яго ўвесь час білі ў дзяцінстве. Ён памятае, як гэта балюча, але інакш ён не ўмее сябе паводзіць. Спачатку ён вучыўся стрымлівацца, паралельна ён спрабаваў зразумець, чаму гэта адбылося. На ўзроўні свядомасці ён пачынае разумець, што айчым быў гвалтаўнікам і здзяйсняў злачынства супраць яго і яго мамы, і на ўзроўні пачуццяў ён шукае шляхі, як не біць сваю дачку. Важна, што ў яго быў запыт на змяненне. Калі ў чалавека няма запыту, то толькі праз загады да яго можна дастукацца. Проста таму, што загады для яго — звычайнае асяроддзе існавання.

***— У Беларусі за зрыў масак з сілавікоў людзей затрымліваюць паводле крымінальных артыкулаў. Адчуваецца, што яны баяцца дэананімізацыі. Чаму?***

— Ім страшна, што іх сёстры і мамы даведаюцца, чым яны займаюцца. У іх ёсць страх расчараваць маму, як і ва ўсіх людзей. Калі ў іх ёсць чалавечая рыса, то гэта нармальнае жаданне захаваць павагу сваякоў.

***— Вашы кліенты прыходзілі з запытам, што адчуваюць віну за свае дзеянні?***

— Пачуццё віны — гэта ўсведамленне і ўнутраная праца. А калі я абараняюся тым, што я маю рацыю і я выконваў загад, пачуццё віны не даходзіць да ўсведамлення. Першапачатковая стадыя ў іх — гэта разгубленасць. Бо для пакаяння важная велізарная ўнутраная праца. Выйсці са статыстычнай нормы, дзе гвалт і загад важней за ўсё, — гэта вельмі складана.

**Друкуецца ў скароце паводле reform.by, пераклад НЧ**

# «Элегантныя перамогі» па-амерыканску

Алег НОВІКАЎ

**Якой бы ідэальнай і дэмакратычнай ні была выбарчая сістэма, ёй не пазбегнуць спробаў фальсіфікацый. Прайшлі праз гэты вопыт і ЗША, дзе на гэтым тыдні абіралі прэзідэнта.**




Фота www.refinery29.com

Першыя прэзідэнцкія выбары ў ЗША былі праведзеныя ў лютым 1789 года, калі Калегія дэлегатаў аднагалосна абрала Джорджа Вашынгтона прэзідэнтам. Вашынгтон зноў перамог у 1792 годзе. Ні тыя, ні іншыя выбары не выклікалі спрэчак з-за моцнай папулярнасці Вашынгтона. Усім здавалася, што выкладзены ў Канстытуцыі выбарчы працэс пайшоў так, як і задумвалі бацькі-заснавальнікі ЗША.

На самай справе, нават у Вашынгтона быў шкілет у шафе. Яшчэ ў часы, калі Амерыка была калоніяй, ён быў абраны ў заканадаўчы орган Вірджыніі шмат у чым дзякуючы подкупу электарату алкаголем. Агулам будучы першы прэзідэнт ЗША праставіў выбаршчыкам прыкладна 160 галонаў (каля 800 літраў) рому і віскі, што забяспечыла яму першы мандат дэпутата.

З сыходам аўтарытэтнага Вашынгтона з палітыкі ўсё змянілася. Цяпер на палітычную арэну выходзілі кандыдаты з аднолькава роўным рэйтынгам. Кураж супрацьстаяння ўзмацніла з'яўленне палітычных партый, якія прадстаўлялі розныя рэгіёны і сацыяльныя групы ды навязвалі грамадству супярэчлівыя пазіцыі.

З тых часоў практычна ні адны выбары ў ЗША не абыходзяцца без абвінавачванняў у крадзяжах выбараў, карупцыйных здзелках, укінутых бюлетэнях, незаконнай падачы галасоў, хабарніцтве і іншых спосабах фальсіфікацый. Часцяком такія абвінавачванні былі часткай выбарчай стратэгіі для дыскрэдытацыі апанента. Але часам выпадкі пацвярджаліся.

Шмат у чым гэтаму спрыяла недасканаласць сістэмы, якая дазваляла штабам кандыдатаў ледзь не ў адкрытую падкупляць выбаршчыкаў. Так, падчас прэзідэнцкіх выбараў у Індыяне ў 1888 годзе штаб рэспубліканцаў апублікаваў у газетах інструкцыю: як атрымаваць на выбарах «карусель» і дзе можна атрымаць за гэта грошы. Пры гэтым доўгі час асноўным месцам подкупаў былі салуны і бары. У тым ліку таму ідэя забароны алкаголю сто гадоў таму была падтрыманая вялікай часткай прыхільнікаў дэмакратыі.

**Канчатковага пераможцу на выбарах прэзідэнта ЗША вызначае не выбаршчык, а дэлегаваны ім сябра савету дэлегатаў або парламент. Праз гэта час ад часу ў падтасоўкі выбараў уключалася эліта**

Акрамя таго, канчатковага пераможцу на выбарах прэзідэнта ЗША вызначае не выбаршчык, а дэлегаваны ім сябра савету дэлегатаў або парламент. Праз гэта час ад часу ў падтасоўкі выбараў уключалася эліта. У 1824 годзе кандыдат Эндру Джэксан атрымаў большасць галасоў, аднак не змог стаць прэзідэнтам з-за недахопу галасоў у савеце дэлегатаў. Імя гаранта павінна была назваць Палата прадстаўнікоў. Джэксан лічыў, што дэпутаты будуць паважаць волю большасці выбаршчыкаў. Нічога падобнага — спікер Генры Клей, наабяцаўшы дэпутатам усялякіх бонусаў, працягнуў на пасаду прэзідэнта Джона Адамса. Пакрыўджаны Джэксан публічна назваў абранне Адамса «карупцыйнай здзелкай».

Аднак самымі бруднымі за акіянам лічацца выбары 1876 года, калі прозвішчы 20 дэлегатаў з чатырох паўднёвых штатаў аказаліся не вызначанымі: кожная партыя сцвярджала, што яе кандыдат выйграў. Па вялікім рахунку, выбары проста зрываліся, каб пасля распачаць кулуарны гандаль. Як вынік, была складзеная нефармальная здзелка, паводле якой усе 20 галасоў былі аддадзеныя рэспубліканцу Хейсу. У абмен на згоду з выбарамі Хейса рэспубліканцы паабяцалі вывесці федэральныя войскі з Поўдня. На наступны дзень пасля рашэння пра прэзідэнцтва Хейса адна з мясцовых газет выйшла з некралогам пра смерць амерыканскай дэмакратыі.

Каб здабыць перамогу, не цураліся кандыдаты і кантактаў з крыміналам. Так было, напрыклад, з кампаніяй Джона Кенэдзі ў 1964-м, якога негалосна падтрымлівала мафія Чыкага. Праз два гады пасля перамогі Кенэдзі над Ніксанам газетчыкі высветлілі, што ў выбарах прынялі ўдзел нябожчыкі, чые імёны ўносілі ў спісы выбаршчыкаў. Прэса збіралася запусціць скандальную публікацыю, якую, аднак, заблакавала па просьбе Ніксана. «Наша краіна не можа дазволіць сабе агонію канстытуцыйнага крызісу ў разгар халоднай вайны», — сказаў палітык. Зрэшты, Ніксан быў той яшчэ прыхільнік сумленных выбараў. Выбары 1972-га ён выйграў шмат у чым за кошт праслухоўвання штабу дэмакратаў у гатэлі «Уотэргейт». Што было потым — вядома.

На выбарах 2020 года без скандалаў таксама наўрад ці абыдзецца. Прынамсі, Трамп і яго прыхільнікі даўно абвінавачваюць дэмакратаў, што тыя фальсіфікуюць выбары за кошт галасавання па пошце. Выступаючы на мітынгу ў сярэдзіне кастрычніка, Дональд Трамп, напрыклад, заявіў, што толькі ў Вірджыніі было пададзена 500 тысяч ілжывых заявак, каб галасаваць шляхам карэспандэнцыі. У лагеры дэмакратаў такія абвінавачванні аспрэчваюць, спасылаючыся на папярэдні вопыт. Паводле аднаго з даследаванняў за 2017 год, узровень фальсіфікацыі галасавання ў ЗША праз пошту складае менш 0,0009%.

Паглядзім, што будзе ў выніку. Зразумела адно: у выпадку фальсіфікацый замаўчаць іх не атрымаецца, і іх арганізатары павінны будуць так ці інакш за гэта адказаць. Напрыклад, на выбарах 2004 года Джордж Буш выйграў галасаванне з найменшай перавагай за ўсю гісторыю. Шмат хто не паверыў у такі вынік. Пачалося расследаванне парушэнняў на ўчастках, дзе рэгістраваліся сумнеўныя вынікі галасавання, якое працягваліся нават тады, калі Буш ужо выйграў свае другія прэзідэнцкія выбары.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Захад, які моцна націсне на Лукашэнку і прапануе яму альтэрнатыву, можа спрыяць станоўчым зменам і дэмакратызацыі Беларусі. Аднак найважнейшую ролю так ці інакш адыграюць самі беларусы і ўнутраныя ўзаемаадносіны паміж апазіцыяй і рэжымам. У любым выпадку, мы на Захадзе павінны падрыхтавацца і ўважліва сачыць за тым, што адбываецца, каб падзеі ў Беларусі не заспелі нас знянацку. Бо ўжо самым бліжэйшым часам сітуацыя можа развівацца імкліва».

**Info.cz (Чэхія)**

«Не атрымліваючы вырашальнай падтрымкі ад Масквы, падвергнуты астракізму Захаду, Лукашэнка спрабуе знайсці спосаб выратавання сваімі сіламі, правакуючы апазіцыю на ўсплёск агрэсіі і Майдан. Дзеянні апазіцыі ад самага пачатку пратэстаў нязменныя — мірнае стаянне і хаджэнне па вуліцах. Украінцы могуць колькі заўгодна смяяцца з няўмення беларусаў рабіць правільныя рэвалюцыі, аднак тактыка паступовага знясільвання ўсё ж нарэшце спрацуе. Уласна, гэта для іх адзіная магчымасць дасягнуць жаданага, не страціўшы дзяржавы».

**Дзеркало тиждня (Украіна)**

«Пра поспех агульнанацыянальнага страйку пакуль казаць не даводзіцца. Многія не захацелі ўдзельнічаць у ім папросту з-за негатыўных наступстваў для сябе асабіста. Але забастоўка ўсё ж не была марнай. Апазіцыя яшчэ раз змагла паказаць, што адстаўкі Лукашэнкі хочуць тысячы чалавек, і, верагодна, нават больш. Гэта надало сіл пратэстным рухам».

**MTV.fi (Фінляндыя)**

«Галоўнай праявай гатоўнасці Лукашэнкі да дыялогу была сустрэча з лідарамі апазіцыі ў СІЗА. Аднак ніякіх рэальных вынікаў яна не прынесла, акрамя таго, што самых лаяльных з іх ён адпусціў. З тых часоў яны, вядома, не крытыкуюць рэжым. Так што, падаецца, з імі атрымалася дамовіцца. Так ці інакш, чакаць цяпер правядзення новых выбараў, якія ўрэгулявалі б сітуацыю, не варта».

**iROZHLAS (Чэхія)**

«Само супрацьстаянне ў Беларусі ўзнікла ад таго, што ў гэтай краіне на пэўным этапе паўстала супярэчнасць паміж найбольш перадавой гарадской часткай грамадства і вельмі архаічнай уладай. Прорва паміж ёй і перадавой часткай беларускага грамадства будзе з часам толькі павялічвацца. А значыць, у вачах прасунутай інтэлігенцыі і іншых гарадскіх слаёў Лукашэнка будзе ўсё менш прымальнай фігурай. Такім чынам, яго архаіка непазбежна ўсё больш будзе цягнуць яго на дно».

**Росбалт (Расія)**

«Беларусь, якую раздзіраюць пратэсты, перажывае сур'ёзны крызіс. Што цікава, да гэтага часу невядома, ці хоча Масква пазбавіцца ад Лукашэнкі, ці бачыць у яго далейшым знаходжанні ва ўладзе шанец на новыя сасtупкі з боку Мінска. Вучэнні «Захад–2021» стануць вельмі цікавым мерапрыемствам. Важна будзе назіраць за тым, якія сілы прымуць у іх удзел, а таксама ці пакінуць яны Беларусь. Паслабленне Лукашэнкі можа прывесці да таго, што гэтым разам не ўсе расійскія танкі і эшалоны з ваеннымі выйдуць з тэрыторыі нашага ўсходняга суседа».

**Defence24 (Польшча)**

# «Прапанаваць людзям значна больш»

Алег НОВІКАЎ

**У Алжыры стартавала канстытуцыйная рэформа — вельмі падобная на тую, што абяцаюць нам нашы ўлады. І там яна ледзь не адразу правалілася.**



Фота www.bbc.com

Напэўна, у кожнай краіне ёсць сімвал няроўнасці грамадзян і кіруючай эліты. Дзесьці — гэта рэзідэнцыі, дзесьці — яхты дзетак палітыкаў. А ў Алжыры такім сімвалам даўно з'яўляўся закрыты ўжо амаль 30 гадоў для звычайнай публікі пляж Club des Pins. Частка апазіцыйных груповак на мітынгах пратэсту нават насіла транспаранты з патрабаваннем адкрыцця таго пляжу для ўсіх. І вось не так даўно закрыты аб'ект адкрылі для плебсу. Як піша прэса, на ўваходзе на пляж утварыліся таўкатня і чэргі. А некаторым наведвальнікам давялося чакаць доступу на пляж паўгадзіны.

Тое, што пляж адкрылі менавіта цяпер, — не выпадковасць. Відавочна, што магчымасць загараць на элітным пляжы павінна нейкім чынам кампенсаваць грамадству крах спадзяванняў на дэмакратызацыю, якія ахапілі краіну ў канцы зімы 2019-га.

Тады, а менавіта 10 лютага, 82-гадовы прэзідэнт Алжыра Абдэльазіз Бутэфліка, які кіраваў краінай з 1999 года, абвясціў пра вылучэнне сваёй кандыдатуры на пяты прэзідэнцкі тэрмін. Пры гэтым не выключаюць, што кандыдат сам не ведаў пра свае ўладныя амбіцыі. У гэты момант — з прычыны доўгай хваробы — ён знаходзіўся ў Жэневе ў палаце рэанімацыі. Па-сутнасці, рашэнне за прэзідэнта, які на публіцы з'яўляўся ў лепшым выпадку раз на год, прымала яго атачэнне.

Так ці інакш, навіна пра дзяжурны паход Бутэфліка на пасаду гаранта выклікала рэзкую незадаволенасць на радзіме. Алжыр нечакана накрыла хваля пратэсту, што было сюрпрызам для ўсіх. Лічылася, што людзі да гэтага часу баяцца рэформаў, застаючыся ў палоне ўспамінаў пра 1980-я гады, калі ў Алжыры ішла вайна з ісламістамі.

Дапускаюць, што выйсці на вуліцы людзей натхніла драма аднаго простага алжырца. Пару месяцаў таму той праваліўся ў 30-метровы калодзеж, шырыня якога складала ўсяго толькі 36 сантыметраў. Сям'я заявіла, што тры дні дамагалася, каб пачалі выратавальную аперацыю. Калі супрацоўнікі МНС прыехалі, мужчына ўжо загінуў. Гэтая гісторыя выклікала першыя хваляванні.

Так гэта ці не, аднак народ сапраўды быў раз'юшаны. На нейкім этапе пратэстоўцам удалося выклікаць эрозію ўнутры вертыкалі, што выявілася ў няўпэўненых дзеяннях сілавых структур, якія алжырцы называлі «арэлі». Гэта паліцэйская практыка, калі парушальнікаў мясцовага аналагу закона аб масавых мерапрыемствах то арыштоўвалі, то выпускалі.

Лёд канчаткова зрушыўся, калі кіраўнік Генштаба запатрабаваў прымянення артыкула Канстытуцыі, у якім «сур'ёзная і працяглая хвароба» кіраўніка дзяржавы разглядаецца як «перашкода» для выканання яго абавязкаў. Адразу ад Бутэфліка адмовіліся алігархі, ветэраны вызваленчай вайны, СМІ і чальцы адміністрацыі. 11 сакавіка Бутэфліка адмовіўся вылучаць сваю кандыдатуру на прэзідэнта. Таксама ў адстаўку сышоў урад Алжыра, а выбары кіраўніка дзяржавы былі перанесеныя на нявызначаны тэрмін.

Галасаванне адбылося ў снежні мінулага года і прынесла перамогу былому прэм'еру Абдэльмаджыду Табуну, які з 58,15% галасоў апярэдзіў кандыдата ад ісламістаў (17,38%) і трох іншых прэтэндэнтаў. Па-сутнасці, старая эліта засталася ля стырна ўлады, дзякуючы шэрагу фактараў. Гэта і адсутнасць адзінства ў апазіцыйным руху, частка якога сімпатызуе ісламістам, і негалосная падтрымка старых кланаў з боку Захаду, які зацікаўлены ў працягу эксплуатацыі алжырскіх запасаў сыравіны.

Каб давесці, што ў краіне пачаліся рэформы, адміністрацыя Табуна паабяцала дыялог з народам. Часам ён выглядаў вельмі незвычайна. Напрыклад, у лютым гэтага года быў падпісаны ўказ, які абвяшчае гадавіну пратэстаў «Нацыянальным днём братэрства і згуртаванасці народа і яго войска за дэмакратыю». Больш за тое, як сказаў Табун, «акцыі пратэсту выратавалі краіну ад поўнага краху».

Адначасова была ініцыяваная канстытуцыйная рэформа. Асноўныя змены уводзяць абмежаванне колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў, скарачэнне паўнамоцтваў прэзідэнта і ўсталяванне балансу галінаў улады. Таксама змены павінны былі замацаваць асноўныя грамадзянскія правы і свабоды, незалежнасць судовай сістэмы і ўзмацніць меры барацьбы з карупцыяй.

У мінулую нядзелю, 1 лістапада, праект паправак быў выстаўлены на рэферэндум і атрымаў патрэбны працэнт падтрымкі. Каментуючы вынікі галасавання, прэзідэнт заявіў, што «ранейшы рэжым больш не існуе», а «краіна ўступіла ў пераходны перыяд на шляху да дэмакратыі». Што да апазіцыі, то яна адразу байкатавала працэс перагляду Канстытуцыі і рэферэндум, паколькі «асуджае змену кланаў у процівагу дэмакратычнай альтэрнатыве».

Ці стаў Алжыр 1 лістапада на шлях дэмакратыі? Або тут пад соусам касметычнай рэформы захаваліся старыя парадкі?

На думку каментатараў, большасць алжырцаў падтрымлівае тэзісы апазіцыі, пра што сведчыць беспрэцэдэнтна нізкая яўка на рэферэндум — 23,7%. Як вынік, можна казаць, што ўладзе не ўдалося атрымаць легітымнасць і нармалізаваць сітуацыю. «Ход галасавання ў нядзелю відавочна паказвае, што рэжым павінен прапанаваць людзям значна больш, калі хоча спыніць палітычны крызіс у краіне. Без рэальнай палітычнай дэмакратызацыі Алжыр не зможа супакоіцца», — мяркуе адна з мясцовых газет.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мая Санду



Экс-прэм'ерка Малдовы, лідарка апазіцыйнай праеўрапейскай «Партыі дзеяння і салідарнасці» амаль сенсацыйна атрымала перамогу ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў. 2 лістапада пасля апрацоўкі 100% пратаколаў Санду налічылі 36,16% галасоў. Другое месца з вынікам 32,61% заняў дзейны кіраўнік дзяржавы, прарасійскі сацыяліст Ігар Дадон. На трэцім месцы — лідар левапапулісцкага фарміравання «Наша партыя» Рэната Вусаты. Ён набраў 16,9% галасоў. Гэта азначае, што Дадон і Санду сустрэнуцца ў другім туры выбараў, паколькі ні адзін з кандыдатаў не здолеў заручыцца падтрымкай большасці выбаршчыкаў.

Пакуль комплексна прычыны поспеху Санду, якая не была фаварытам, незразумелыя. Мяркуюць, што на карысць Санду прагаласавала дыяспара, якая пражывае ў Еўропе. Там малдоўскія гастарбайтэры былі больш актыўныя, чым суайчыннікі ў Расіі, якія звычайна, наадварот, галасуюць за прарасійскія партыі. Некаторыя дапускаюць, што прарыў Санду можа быць праявай моды на жанчын-палітыкаў, якую ў тым ліку задала Ціханоўская.

Відавочна, што цяпер усё залежыць ад таго, як будуць размеркаваныя галасы Рэната Вусатага. Палітолагі прагназуюць, што прыкладна 30–40% яго электарату не прыйдзе на галасаванне. Іншыя 20–30% будуць галасаваць за Дадона незалежна ад таго, што ім скажа Вусаты.

Інтрыга выбараў захоўваецца. Ці будзе ў Малдове першая жанчына-прэзідэнт, мы даведаемся 15 лістапада, калі пройдзе другі тур.

### Леапольда Лопес



49-гадовы венесуэльскі апазіцыянер, былы мэр сталіцы краіны, яшчэ ў красавіку 2019 года з-за пагрозы арышту схаваўся ў рэзідэнцыі пасла Іспаніі ў Каракасе. І вось 2 лістапада Лопес нарэшце збег за мяжу пры дапамозе іспанскіх дыпламатаў. Цяпер Лопес знаходзіцца ў Мадрыдзе, адкуль абяцае працягнуць барацьбу з рэжымам Нікаласа Мадура.

Вітаў уцёкі Лопеса і Хуан Гуайда, якога некаторыя краіны прызналі легітымным прэзідэнтам Венесуэлы. Гуайда заявіў: прыклад з Лопесам даказвае, што Мадура на самай справе нічога не кантралюе ў дзяржаве.

Між тым, ёсць меркаванне, што Мадура негалосна дазволіў вывезці Лопеса за мяжу. Справа ў тым, што Лопес — дастаткова моцная асоба ў асяроддзі апазіцыі і можа паставіць пад пытанне лідарства Гуайда, які расчараваў многіх венесуэльскіх апазіцыянераў. Таксама мусіруецца меркаванне, што ўцёкі Лопеса — гэта прэлюдыя ўцёкаў з краіны самога Гуайда.

Відавочна, што венесуэльскай апазіцыі патрэбна перазагрузка. Асабліва пасля таго, як апеляцыйны суд у Лондане адмяніў больш раннюю пастанову брытанскага Вярхоўнага суда, які абавязаў урад Яе Вялікасці прызнаць Хуана Гуайда прэзідэнтам Венесуэлы.

### Касым Такаеў



Фармальны прэзідэнт Казахстана, якім, як лічыцца, на самай справе кіруе Нурсултан Назарбаеў, разгарнуў незвычайную прапагандысцкую кампанію супраць фільма «Барат-2». Фільм выйшаў на экраны ў кастрычніку і распавядае пра новыя прыгоды казахскага журналіста Бората Сагдзіева, ролю якога выконвае брытанскі комік Аляксандр Коэн.

Увогуле, фільм прысвечаны выбарам у ЗША і яўна іранізуе з рэспубліканцаў. Аднак у Казахстане яго ўспрынялі як замах на годнасць народа Казахстана і яго дзяржаўныя сімвалы. Спачатку больш за 100 тысяч чалавек падпісалі анлайн-петыцыю аб адмене пракату фільма, які ніхто ў Казахстане і так паказваць не збіраўся. Пасля фільм «Барат-2» раскрытыкавала казахскае МЗС. Цяпер уладамі запушчаны флэшмоб **#ягоржусьсвоимфлагом,** у рамках якога казахаў заклікалі выкладаць у сацсетках фота з выявай дзяржаўнага сцяга і выказваць патрыятычныя пачуцці.

Між тым, шмат хто не верыць у выбух «ура-патрыятызму» з боку ўладаў. Хаця б таму, што клан Клінтанаў і дэмпартыя ЗША, якія рэкламуюць фільм Коэна, зусім не чужыя клану Назарбаева. Таксама з'явіліся цікавыя факты, звязаныя з гісторыяй з'яўлення казахстанскай дзяржаўнай сімволікі. Сведкі стварэння сцяга кажуць, што яго прыдумала жонка Назарбаева. Яна паведаміла свайму мужу, што расфарбоўка яе сукенкі якраз пасуе для галоўнага сімвала краіны. У гэтым плане можна дапусціць, што вайна з «Боратам-2» спатрэбілася для палітызацыі казахаў напярэдадні хуткіх парламенцкіх выбараў, якія нікому не цікавыя.



Сяргей ШАПРАН

# Пакаленне, вядомае ў профіль і анфас

**«Ноч расстраляных паэтаў» — ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі ва ўнутранай турме НКУС былі расстраляныя 132 прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, сярод якіх былі 22 літаратары, — з пэўнага часу стала зместам не толькі навуковых манаграфій і мастацкай літаратуры, але і драматычнымі старонкамі цыкла гістарычных і літаратурных анекдотаў.**

### У вар'ятні

Патрапіўшы ў турму, пісьменнікі — тое пакаленне, што сёння больш вядомае ў профіль і анфас, то-бок па турэмных фотаздымках, — вінавацілі каго заўгодна, але толькі не Сталіна. Сымон Баранавых пісаў у лісце да жонкі: «Я і цяпер не ведаю, каму гэта "трэба" было арыштоўваць чалавека, які гатовы перагрызці любому ворагу горла за маю дарагую савецкую ўладу...» Да «друга працоўных Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна» звяртаўся Андрэй Мрый: «Я ў час апошняга следства нават хацеў, каб да мяне былі ўжыты самыя рэпрэсіўныя меры ўздзеяння. Я думаў, што мне ўдалося б пераканаць і даказаць сваю непрыналежнасць да контррэвалюцыйных арганізацый. Я гатовы быў праз слёзы крычаць аб сваёй невінаватасці, клясціся вялікім ценем Леніна і Вашым вялікім імем тым, што, можа, у маіх роспачных словах адчуюць праўду». І толькі Цішка Гартны на пытанне следчага, хто ва ўсім вінаваты, казаў: «Усе. І вы, хто згубіў чалавечы воблік. А Сталін больш за ўсіх».

У выніку Гартнага абʼявілі варʼятам і кінулі ў псіхушку, дзе ён, не дажыўшы да свайго пяцідзесяцігоддзя, паконччыў самагубствам.

### Кат

Лукаш Бэндэ — адна з найбольш змрочных фігур беларускай літаратуры. Крытык-вульгарызатар, якога сучаснікі за вочы называлі «аглабельшчыкам». Яго газетныя разносы цягнулі за сабой турэмныя пакаранні, расстрэлы ці самагубствы. Як прыгадвалі старэйшыя пісьменнікі, Бэндэ, выходзячы на трыбуну Саюза пісьменнікаў, гаварыў: «А цяпер пагаворым пра птушак. Пра што спявае гэтая "птушка"? Пра буржуазны лад жыцця...» Нездарма Кандрат Крапіва прызнаваўся, што калі сядаў за пісьмовы стол, перад яго вачыма ўзнікаў Бэндэ. Рыгор Барадулін прыгадваў мімалётнае знаёмства з ім: «І здарылася так, што ў выдавецтва недзе ў шасцідзясятыя гады зайшоў нехта невысокі, невыразны, да бліскаты лысы. Падае мёртвую і ліпкую руку:

— Бэндэ.

І мне стала зябка. Была яшчэ цёмная восеньская раніца. У пакоі я быў адзін. Лямпачкі гарэлі болей чым ашчадна. Ажылі згадкі і ацалелых, і рэабілітаваных пісьменнікаў нашых.

Гэты нехта па імені Бэндэ штосьці казаў, нешта прапаноўваў выдаць. Я не чуў. Адаслаў яго да начальства. І з маладой бязлітаснасцю напісаў:

*— Die stunde ist zuende,*
*Не ўсё зрабіў, што мог, —*
*Сказаў са злосцю Бэндэ*
*І ў дамавіну лёг.*

Але Бог, як кажуць, шэльму мецiць. Перакладаючы пʼесу «Ветрык, вей!» класіка латышскай літаратуры Яна Райніса, Барадулін быў уражаны, сустрэўшы ў слоўніку пераклад слова «бэндэ»: у латышскай мове яно мае толькі адно значэнне — кат.

### «Доказы вінаватасці»

Пісьменнік Барыс Сачанка пераказваў аповед рэпрэсаванага ў 1930-я гады літаратара:

— Помню, сеў я вячэраць. Стук у дзверы. Я адчыніў. На парозе стаяць двое. Некалькі гадзін порказліся ў маіх рукапісах, кнігах, рэчах. Два мяшкі напакавалі «доказамі маёй вінаватасці». Ні машыны, ні падводы не было. Давялося на сабе ўсё гэта валачы. Уявіце: ідуць гэтых двое, ідзём мы з жонкаю і нясём самі на сабе «рэчавыя доказы вінаватасці», якой не было...

Выйшаўшы на волю праз гады, той літаратар пабываў на ленінградскай кватэры Бэндэ, якая ўся была застаўлена папкамі ды кнігамі. У тым ліку нявыдадзенымі кнігамі Дубоўкі, Пушчы, Гарэцкага, Жылкі — яны стаялі ў той самай чарговасці, як аўтараў арыштоўвалі. Знайшлася і нявыдадзеная кніга гэтага літаратара.

Калі рэпрэсаваныя пісьменнікі вярталіся з турмаў ды лагераў, Бэндэ прадаваў ім рукапісы іх кніг, што былі канфіскаваны пры арышце.

### Па-сталінску

Рыгор Барадулін распавядаў, як некалі першы сакратар ЦК КПБ Панцеляймон Панамарэнка паклікаў адданых партыі творцаў пяра і паведаміў, што ёсць магчымасць вярнуць некаторых пісьменнікаў са сталінскіх «курортаў». І тады прагучаў голас Кандрата Крапівы:

— Як сядзелі, так няхай і сядзяць.

Панамарэнка змоўк.



Фота Яны Турсіла

Зрэшты, паэт Рыгор Рэлес распавядаў, як на ўласнае вушы чуў, што з такім пытаннем да пісьменнікаў звярнуўся не Панамарэнка, а Броўка. Тады Крапіва і сказаў тое, што сказаў.

### «Худая вша»

З запісаў Барыса Сачанкі:

«Андрэй Александровіч нарадзіўся ў Мінску ў рабочай сямʼі і ў сваіх творах ухваляў усё, што ні рабіла савецкая ўлада — яна ж сіла рабоча-сялянская. І таму, калі пачаліся ў Беларусі рэпрэсіі, ён не падпаў пад іх. Наадварот, ім садзейнічаў, дапамагаў знаходзіць тых, хто яшчэ быццам прытаіўся ці "прымазваўся" да "пераможнага поступу сацыялізму" — "поспехаў калектывізацыі і індустрыялізацыі", бязлітасна выкрываў іх у сваіх артыкулах, вершах, паэмах. Вядома ж, і "рос" — атрымліваў новыя і новыя пасады, званні — намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў, члена-карэспандэнта Акадэміі навук, члена ЦВК БССР, кандыдата ў члены ЦК КП(б) Беларусі...

І раптам, калі, здавалася, Андрэй Александровіч быў на самай вяршыні славы, яго арыштавалі... За што? Ды быццам за верш, які напісаў, будучы зусім маладым у пачатку дваццатых гадоў. Верш як верш, ён услаўляў Чырвоную Армію і таму перадрукоўваўся ў розных чытанках. І ніхто да пары і часу не бачыў, што гэта акраверш — першыя літары радкоў утваралі любімы выраз Андрэя Александровіча — "Худая вша".

Сын паэта ўжо пасля смерці бацькі даводзіў не аднаму мне, што гэта не Андрэя Александровіча верш, што яго напісалі надрукавалі за прозвішчам бацькі яго непрыяцелі. Хто ведае, можа, і праўда. Бо Андрэя Александровіча многія не любілі. Апавядаюць: калі ён вярнуўся па адбыцці кары ў 1947 годзе ў Мінск і паставіў пытанне аб аднаўленні ў правах членам Саюза пісьменнікаў, Янка Маўр сказаў: "Мы ж толькі і жыць пачалі, калі цябе забралі... А цяпер ты зноў зʼявіўся, зноў захочаш барацьбу з усімі весці..."

І не аднавілі Андрэя Александровіча ў правах члена Саюза пісьменнікаў... Давялося яму вяртацца зноў у "места не столь отдаленные"...».

**Практычна ўсё жыццё Ян Скрыган пражыў з даведкай аб адмене прысуду 1937 года і спыненні справы з-за недаказанасці складу злачынства. Пра тое, што ён адседзеў у сібірскіх лагерах незаконна, у даведцы не было ані слова**

### На карысць рэвалюцыі

Двойчы рэпрэсаваны пісьменнік Ян Скрыган прыгадваў, як сустрэў у лагерным пункце Бэла Куна — таго самага некалі славутага бальшавіцкага дзеяча, які ў 1919 годзе абвясціў Венгерскую Савецкую Рэспубліку, што праіснавала крыху больш за сто дзён, а ў 1920-м, пасля ўстанаўлення ў Крыме савецкай улады і прызначэння старшынёй Крымскага рэўкама, стаў арганізатарам чырвонага тэрору на паўвостраве. Цяпер гэты самы Бэла Кун «супакойваў» без віны асуджанага на дзесяць гадоў сібірскіх лагераў Скрыгана:

— Нічога, малады чалавек, у гісторыі ўсё магчыма. Абы на карысць рэвалюцыі.

Сам Кун, абвінавачваны ў кіраўніцтве контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыяй, быў у 1938-м расстраляны. Мусіць, на карысць рэвалюцыі.

### Рэабілітацыя

Практычна ўсё жыццё Ян Скрыган пражыў з даведкай аб адмене прысуду 1937 года і спыненні справы з-за недаказанасці складу злачынства. Пра тое, што ён у 1936 годзе не быў удзельнікам контррэвалюцыйнай арганізацыі і, адпаведна, адседзеў у сібірскіх лагерах незаконна, у даведцы не было ані слова.

Цалкам рэабілітаваны былы ссыльны Іван Аляксеевіч Скрыган быў толькі ў 1991 годзе, за год да смерці. Яму якраз споўнілася 85.

### «Царыца Тамара»

Яе першым мужам быў славуты грузінскі рэжысёр Сандро Ахметэлі, мастацкі кіраўнік тбіліскага Тэатра імя Шата Руставелі, дзе яна была прымадоннай. Сучаснікі называлі яе царыцай Тамарай.

Але яе шчасце было нядоўгім — у 1936-м Сандро Ахметэлі арыштавалі па даносе двух народных артыстаў СССР, што служылі ў тым жа тэатры (адзін з іх пасля атрымаў тры Сталінскія прэміі запар). І тады «царыца Тамара», спадзеючыся на сустрэчу са Сталіным, паехала ў Маскву. І хоць сустрэчы з «правадыром» не дамаглася (у НКУС кармілі абяцанкамі: заўтра, заўтра), але затое абнадзеілі: «Вяртайцеся дамоў і чакайце». Яна паслухалася і вярнулася.

Чакаць нават не давялося — яе арыштавалі прама на вакзале ў Тбілісі як жонку «ворага народа». Прысуд: амаль дзесяць гадоў турмаў, лагераў і лесапавалаў. Там яна і пазнаёмілася з рэпрэсаваным беларускім пісьменнікам Алесем Пальчэўскім, ад якога, як ад «ворага народа», адцуралася жонка. Пальчэўскі стаў другім мужам Цулукідзэ.

### Усёдараванне

Тым разам маскоўскі Тэатр Расійскай Арміі паказваў у Мінску спектакль з удзелам народнай артысткі СССР Ніны Сазонавай. Даведаўшыся, што Тамара Цулукідзэ не толькі ў Мінску, але і прыйшла на спектакль, Сазонава папрасіла пра сустрэчу — яна памятала маскоўскія гастролі Тэатра імя Руставелі ў 1930-я гады.

Калі Цулукідзэ прыйшла за кулісы, масквічы засыпалі яе кветкамі, а рэжысёр-пастаноўшчык Бурдонскі ўстаў перад ёй на калені. Назаўтра Тамара Грыгорʼеўна распавядала журналісту Раману Ярохіну:

— Я памаладзела на дваццаць пяць гадоў! Учора была ў тэатры, падзарадзілася душой, хаджу як імянінніца! Дзякуй за свята Сазонавай! Дзякуй Бурдонскаму!

Ведаючы, што Цулукідзэ на дух не пераносіць імя Сталіна, ніхто не наважыўся казаць ёй, што Бурдонскі — унук Сталіна. Не стрымаўся назаўтра толькі журналіст Раман Ярохін:

— Царыца Тамар (ён звяртаўся да яе на грузінскі манер), а каб хтосьці казаў вам, што Бурдонскі — унук Сталіна?

Яна ўважліва паглядзела на яго:

— Па-першае, я ведаю, што Аляксандр Васільевіч — унук Сталіна. Па-другое, унук не можа і не павінен адказваць за злачынствы свайго дзеда.

Пасля расстрэлу мужа і яе арышту, яе сын выхоўваўся ў сямʼі брата Сандро Ахметэлі. Ёй толькі аднойчы дазволілі ўбачыцца з ім — калі лагер замянілі на ссылку.

— Прыехала ў Тбілісі, выйшла з вагона — бяжыць мой хлопчык: «Мама-а!» У мяне ногі падкасіліся. Абняла яго, цалавала, плакала. Вось тады і зразумела, што я ўсім і ўсё даравала. І Сталіну, і маім катам.

# Каманда, якую мы страцілі

Сяргей КАЙКО

**Алена Леўчанка, зорка сусветнага жаночага баскетбола, паляцела ў Грэцыю — на планавую медыцынскую рэабілітацыю, патрэбную дзеля працягу бліскучай спартыўнай кар'еры.**

Абставіны, якія суправаджалі ад'езд славутай цэнтравой, на жаль, сумныя і незваротныя. З іх немінуча выцякае маркотная выснова: айчынныя заўзятары страцілі яшчэ адну каманду, якую нядаўна любілі і якой ганарыліся.

Краіна працягвае плаціць высокую цану за палітычныя падзеі, што раздзялілі найноўшую беларускую гісторыю на «да» і «пасля».



Калі дрэвы былі вялікімі: Алена Леўчанка з сяброўкамі па зборнай святкуюць перамогу

## Акрэсціна і вошы

Алена хацела з'ехаць істотна раней — яшчэ 30 верасня. Купіла квіток, адправілася ў аэрапорт, развіталася з бацькамі. Аднак самалёт падняўся ў паветра без яе. Леўчанка затрымалі, фігуральна гаворачы, прама каля трапа, каб затым пасадзіць на 15 сутак на Акрэсціна.

Гэтая гісторыя вельмі вядомая і не мае патрэбы ў пераказе. Як баскетбалістка, якая гуляла ў ЗША, Расіі і Кітаі, спала без матраца на металічных прутах. Як адміністрацыя адключыла ў камеры ваду нават у прыбіральні. Як праз антысанітарыю завяліся вошы — дзівосная з'ява для Еўропы XXI стагоддзя і тыповая для нашага бягучага сярэднявечча. Асабліва для тых, хто не згодны з «палітыкай партыі», прагне пераменаў і змагаецца за іх мірнымі сродкамі.

Ураджэнка Гомеля, Алена з першых дзён паўстала ў авангардзе спартыўнага пратэсту. Яна ездзіла на Акрэсціна ў тыя самыя страшныя жніўеньскія дні, каб сустрэць збітых. Яна з калегамі выходзіла на нядзельныя маршы са знакамітай расцяжкай «Народ — чэмпіён». Яна давала адчайныя інтэрв'ю, у якіх не маскіравала свае думкі за асцярожнымі эўфемізмамі. Нарэшце, яна падпісала той самы вядомы адкрыты ліст, у якім беларускія спартсмены патрабавалі новых выбараў і спынення гвалту.

За ўсё гэта і стала мішэнню, аб'ектам паказальных рэпрэсій. Чаму выбралі менавіта яе — адказ вышэй. Хаця сярод аднадумцаў Алены са Свабоднага аб'яднання спартсменаў хапае і іншых годных людзей. Згаданы адкрыты ліст падпісалі ўжо больш за тысячу чалавек.

Аднак цяпер усё ў мінулым — Леўчанка на волі і больш не думае пра тое, што ў любы момант за ёй могуць прыйсці. Яна з'ехала, а мы засталіся. З гонарам за баскетбалістку-суайчынніцу — і з няёмкасцю за беларускі жаночы баскетбол, які так вяла адазваўся на бяду сваёй ці не самай знакамітай прадстаўніцы.

## «Маглі б хоць патэлефанаваць»

Адазваліся простыя беларусы — і сусветныя баскетбольныя знакамітасці з розных краін. Адазваліся падпісчыкі ў сацсетках і нават адыёзны расійскі прапагандыст Уладзімір Салаўёў, які абурыўся ўмовамі ўтрымання Алены ў акрэсцінскім ЦІП. Жыхары Новай Баравой — ёсць у Мінску такі мікраён — зладзілі адмысловы канцэрт у падтрымку Леўчанка. Бельгійская зорка Эма Місеман сказала ў інтэрв'ю: «Вестка пра арышт Алены выклікала шок ва ўсім баскетбольным свеце і не толькі». Апальныя купалаўцы гучна віталі стойкасць дзяўчыны і заўважылі, што «аднойчы яе біяграфію экранізуюць».

І толькі родны беларускі баскетбол, па вялікім рахунку, сарамліва «не заўважыў» таго, што здарылася.

Тут адразу вынесем за дужкі Беларускую федэрацыю баскетбола. Дзіўна было б чакаць падтрымкі ад арганізацыі, якая афіляваная з дзяржавай і якой кіруе першы намеснік прэзідэнцкай адміністрацыі. Тым больш БФБ і раней без сімпатый ставілася да Алены, у нейкі момант фактычна выкрасліўшы яе са свайго ростэра давеpу.

Тут адразу пяройдзем да баскетбалістак нацыянальнай зборнай — каманды, якой Леўчанка ахвяравала многія гады самаадданай гульні, з якой перажыла хвіліны трыумфу і горычы і яркай часткай якой была і застаецца. На жаль, і з гэтага боку вязніца Акрэсціна так і не чакалася ўцямнай салідарнасці.

Алену падтрымалі лічаныя гульцы зборнай — былыя і цяперашнія. Не засталася ўбаку дзеючы капітан каманды Кацярына Сныціна — інакш быць не магло, бо дзяўчына таксама з ліку спарстменаў-пратэстоўцаў і падпісантаў адкрытага ліста. Не прамаўчалі Наталля Марчанка і Марына Крэс — абедзве ўжо скончылі кар'еру, але заўзятары цудоўна памятаюць іх яскравую гульню. Лайкаў і сардэчак падкінула Таццяна Троіна — з далёкага Эквадора, куды з'ехала за асабістым шчасцем пасля сыходу з пляцоўкі. І, здаецца, — усё.

«Так, вы маўчыце, я разумею вас — сям'я, крэдыты, баіцеся страціць заробак... — невясела разважала ў інтэрв'ю «Трыбуне» маці Алены Людміла Паўлаўна. — Але, прабачце, чыста па-чалавечы маглі ж набраць мне патэлефанаваць, пагаварыць. Ніхто ж за гэта лаяць не будзе».

«Ад некаторых былых калег, з якімі я адыграла столькі гадоў у нацыянальнай зборнай, таксама не паступіла слоў падтрымкі. Або падтрымкі хай не мне, а маім блізкім. Гэта адзінкавыя людзі», — распавяла youtube-каналу «Жизнь-малина» сама Алена Леўчанка. І дадала: «Такая наша рэальнасць на сённяшні дзень. Праверка на вашывасць».

Не трэба быць дыпламаваным знаўцам антрапалогіі, каб зразумець: ад гэтага часу ў вачах заўзятарскай супольнасці жаночая зборная Беларусі перастала быць светачам і аб'ектам усеагульных сімпатый. З ёй адбылося прыкладна тое ж самае, што і з хакейным «Дынама», і з нацыянальнай футбольнай зборнай. Каманды, чые гульцы пакорліва маўчаць пасярод прававога і маральнага дэфолту, больш не будуць ранейшымі.

## «Буяльскія дзяўчаты»

Чым доўгія гады была для беларускіх заўзятараў жаночая баскетбольная зборная — пра тое напісана безліч журналісцкіх артыкулаў. Пра тое шмат сезонаў напралёт гудзелі інтэрнэт-форумы. Гэта быў феномен, што гарманічна ўкладваўся ў паняцце «народная каманда», якое і тлумачыць не трэба.

Іх называлі «буяльскімі дзяўчатамі» — па прозвішчы галоўнага трэнера Анатоля Буяльскага, які аднойчы знайшоў падыход да складаных жаночых душаў і натхніў іх на подзвігі. Душы, зрэшты, таксама былі як на падбор — плеяда таленавітых, амбіцыйных амазонак, гатовых парваць на паркеце любога.

Яны і рвалі, нягледзячы на касмічную канкурэнцыю. Двойчы ездзілі на Алімпіяду, чэмпіянаты Еўропы і свету былі для іх звыклым побытам. Вакол каманды лунала асаблівая аўра, якую пазней назавуць «каманднай хіміяй». Расклад тэлетрансляцый ці гульняў у мінскім Палацы спорту гледачы завучвалі на месяцы наперад — і чакалі-чакалі тых дзён, калі за «буяльскіх дзяўчат» зноў давядзецца заўзець з валідолам пад рукой.

Гэты фальклорны валідол — яшчэ адзін нязменны маркёр той харызматычнай каманды. Як і трэнерскі вокліч «банзай» у вырашальныя імгненні матча, калі баскетбалісткам прыходзіў час уключаць «максімалку» і перці на супернікаў танкам, а да перамогі — напралом.

Лепш за ўсё атрымалася ў 2007-м — на чэмпіянаце Еўропы. Там беларускі прайшліся катком па зборных Сербіі і Харватыі, не пакінулі шанцаў італьянкам і чэшкам, а ў матчы за трэцяе места перамаглі Латвію. Бронзавыя медалі — гэта быў прарыў, гледзячы за якім нашы заўзятары ад Гродна да Гомеля зрывалі галасы і паралізавалі актыўнасцю спартыўныя сайты.

Тое ж самае ледзьве не паўтарылася праз тры гады ўжо на чэмпіянаце свету. Беларуская зборная паслядоўна закашмарыла каманды Кітая, Канады, Грэцыі... Так і дагуляла да паўфінала, дзе толькі за кошт падазрона перадузятага судзейства саступіла Чэхіі. О, як крылі тых арбітраў беларусы... На сайце «Прэсбола» колькасць каментароў пад адной анлайн-трансляцыяй упершыню перавалiла за тысячу — і гэта быў красамоўны паказчык народнай эмпатыі.

У выніку дзяўчаты занялі толькі чацвёртае месца, але глыбокі след на турніры пакінулі. У чвэрцьфінале яны эфектна — 70:53 — «пляснулі» фаварытак-расіянак, і гэта стала галоўнай сенсацыяй чэмпіяната. Алена Леўчанка ў той гульні стала хэдлайнерам, набраўшы 17 ачкоў. А ўвогуле менавіта яе назвалі лепшай цэнтравой сусветнага форума.

Узгадваеш цяпер — і думаеш, што куды падзелася. Каманда крыху здала пазіцыі, але гэта якраз не здзіўляе — натуральная з'ява праз змену пакаленняў. Ненатуральна, што без падтрымкі ў цяжкую хвіліну засталася адна з творцаў тых незабыўных падзей.

Беларуская публіка зрабіла з таго правільныя высновы. І сёння ўжо няма ні аўры, ні маркёраў, а валідол хіба што п'юць бацькі Алены Леўчанка перад мурамі на Акрэсціна.

## Берагі надзеі

Хтосьці скажа: і што з таго? Ну, не падбадзёрылі Леўчанка сяброўкі па зборнай — дык у іх, можа, іншае стаўленне да сітуацыі ў краіне. Яны, магчыма, і галасавалі 9 жніўня за захаванне існуючага рэжыму, супраць якога выступае знакамітая акрэсцінская арыштантка. Мець прынцыпова розныя перакананні — ці не за гэта выступае цяпер беларускі пратэст?

За гэта, канешне, хто б спрачаўся. Але наша баскетбольная гісторыя зусім не пра тое. Падмурак у яе не палітычнага кшталту — хутчэй, маральна-этычнага. І які б светапогляд ты ні меў, элементарнага спачування — як базавай каштоўнасці — гэта не адмяняе.

Крыштальны прыклад на карысць вышэй сказанага — гісторыя са свету шахмат. Пра тое, як Анатоль Карпаў наведаў Гары Каспарава ў маскоўскім СІЗА.

Здаецца, тое было ў 2007-м, а Каспараў загрымеў на Пятроўку, 38 праз удзел у «Маршы нязгодных». Ён ужо тады займаўся палітыкай і заняў прыкметнае месца ў шэрагах апазіцыянераў. Карпаў жа, як і ў савецкія часы, супраць дзяржавы не ішоў, і за сваю добранадзейнасць меў ад яе не рэгулярны перaслед і арышты, а пашану і павагу.

Яны ўвогуле глядзяць на жыццё па-рознаму — два геніяльныя шахматысты мінулага стагоддзя, два ідэйныя антыподы, за чыім шматгадовым жорсткім саперніцтвам калісьці сачыў увесь белы свет. Аднак гэта не перашкодзіла аднаму пайсці падтрымаць другога, калі той трапіў за краты.

Карпава да заклятага сябра не пусцілі, праз што ён пасля абураўся: «Проста глупства! Трэба было, наадварот, запусціць — ды яшчэ і дошку паставіць. Уяўляеце, шахматная сустрэча двух чэмпіёнаў свету ў камеры? Гэта на тэлеэкранах усяго свету паказалі б!» Каспараў учынак ацаніў. Казаў потым: «Гэта пераважвае ўсе праблемы, якія былі ў нашых адносінах на працягу 25 гадоў». І важка падкрэсліваў: «Многія людзі, якія лічыліся сябрамі, зрабілі выгляд, што нічога не заўважылі».

Два вялікія шахматныя каралі жывуць па розныя бакі барыкад. Жаночая баскетбольная зборная Беларусі як быццам плыве ў адным чоўне. Шкада толькі, што строга па плыні, уздоўж генеральнай лініі — і ўсё больш аддаляючыся ад берагоў надзеі.


Зруйнаваны будынак на Падольнай,48


Будынак у стылі канструктывізму на Асіпенкі,3. Наступны кандыдат пад знос


Камяніцы на Віленскай, 33 і 37

# Улады Гродна руйнуюць гістарычную забудову

Алесь КІРКЕВІЧ

**За апошнія тыдні пад удар трапіла ажно чатыры будынкі, узведзеныя паміж 1890-мі і 1930-мі. Вельмі верагодна, што гэта не канец гісторыі: будуць чарговыя руйнаванні, «ахвяры» ўжо абраныя.**

Першая камяніца, да якой едзем, знаходзілася на Падольнай, 48. Двухпавярховая, 1893 года пабудовы. Людзей адсюль выселілі яшчэ 10 гадоў таму — будынак прызналі непрыдатным для пражывання, аварыйным. Замест таго, каб рэканструяваць — знеслі.

Пакуль здымаем руіны, да нас падыходзіць мясцовы жыхар у будаўнічай робе і пытаецца, ці можна адтуль браць цэглу. Адказваем, што журналісты, і пытанне не па адрасе. Немалады чалавек ажыўляецца, пачынае хваліць старую цэглу. Маўляў, тая, дарэвалюцыйная, лепшая за сучасную. Яе шмат разоў можна выкарыстаць, але ўлады вывозяць яе як смецце. «Таму што не гаспадары!» — дадае мужчына.


Януш Паруліс, краязнаўца і ўласнік прыватнага музея

## Уласнік прыватнага музея: «Слова цэнзурнага не знаходжу...»

Далей едзем на Лермантава, 9а. Тут таксама яшчэ нядаўна стаяла двухпавярховая камяніца, збудаваная да 1917 года. Ад яе ўжо і следу не засталося — толькі засыпаная лісцем пляцоўка са слядамі ад тэхнікі на зямлі і асобнымі цаглінкамі. У выходныя, калі будаўнікоў няма, тут корпаюцца мясцовыя: вышукваюць метал, каб пасля здаць.

Наступны адрас — Віленская, 33 і 37. Гэта два дамкі, збудаваныя на пачатку XX стагоддзя: двухпавярховы мураваны з шыкоўнай брамай і — драўляны побач. У мураваным ужо разабралі другі паверх і каваны гаўбец. У драўляным — знеслі дах. Дамы яшчэ ў працэсе зносу.

«Тут да вайны і падчас вайны была пякарня майго дзядзькі, — тлумачыць Януш Паруліс, краязнаўца і ўласнік прыватнага музея за 200–300 метраў ад дамкоў. — Пасля прыйшлі «вызваліцелі», і дзядзьку саслалі ў Сібір. Там ён «кукаваў» гадоў сем... А цяпер ужо і дом сам разбураюць. Тыя, хто гэта робіць... слова цэнзурнага не знаходжу. Бо грошы! Можна было і фасад пакінуць, але не разбіраць. Гаўбец каваны там быў... Словаў няма».

## Гісторык: «Улады дэманстратыўна пазбягаюць дыялогу»


Мечыслаў Супрон, гісторык і краязнаўца

Мы звярнуліся да гісторыка архітэктуры і краязнаўцы Мечыслава Супрона. Паводле яго, кожны дамок, тым больш XIX стагоддзя, важны і мае быць захаваны: «Улады заўсёды былі гатовыя знесці хоць увесь гістарычны цэнтр і прадаць зямлю інвестару пад пабудову нечага, накшталт гатэлю Сямашкі. Сапраўдная гістарычная і культурная вартасць спадчыны чыноўнікаў ніколі не цікавіла. Іх цікавяць толькі лічбы. Колькі прыцягнута інвестыцыяў, колькі зэканомлена сродкаў і гэтак далей».

Паводле Супрона, вясна і восень — перыяды так званага «навядзення парадку» ў горадзе. Простымі словамі — зносу старых будынкаў. Падобная тактыка існуе ўжо як мінімум 15 гадоў.

«Раней улады заўсёды сутыкаліся з перашкодамі з боку неабыякавых жыхароў і краязнаўцаў. Цяпер, у час прававога дэфолту, гэтай перашкоды няма. І ўвогуле, калі раней гарадская адміністрацыя (у прыватнасці, кіраўнік гарвыканкаму Мечыслаў Гой) спрабавала нейк прыслухоўвацца да грамадскасці, то цяпер яна дэманстратыўна пазбягае дыялогу».

Супрон дадае, што наступны кандыдат на знос — драўляны будынак 1930-х у стылі канструктывізму на Асіпенкі, 3. Яго набыў на аўкцыёне прыватнік за невялікія грошы. Цяпер жа дом ужо два гады стаіць без даху, дэградуе. Суседзі кажуць, што хутка яго знясуць, а на месцы з'явіцца сучасны офісны будынак.

## Закон: уласнік можа рабіць усё, што заўгодна...

Як усё гэта выглядае з юрыдычнага пункту гледжання? Ёсць гістарычны цэнтр горада, які мае свае межы. Старыя будынкі ў гэтых межах могуць мець яшчэ асобны статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, як, напрыклад, Фарны Касцёл. А могуць быць наўпрост ахаваны межамі — тады статус надаецца аўтаматычна. Праўда, гэта будзе адно трэцяя катэгорыя гісторыка-культурнай каштоўнасці — самая ніжэйшая.

У сваю чаргу, аб'екты, якія знаходзяцца па-за межамі гістарычнага цэнтру і не маюць статусу, не абароненыя абсалютна ніякім законам. Уласнік можа рабіць з імі што заўгодна: або аднаўляць па сваім гусце, або — руйнаваць.

**«Улады заўсёды былі гатовыя знесці хоць увесь гістарычны цэнтр і прадаць зямлю інвестару... Сапраўдная гістарычная вартасць спадчыны іх ніколі не цікавіла»**

Будынкі на Падольнай і Лермантава не былі ў межах ахоўнай зоны, таму фармальна ніхто нічога не парушае. Дамы ж на Віленскай — у ахоўных межах. Але і гэта сведчыць толькі пра тое, што новы ўласнік мае аднавіць агульныя абрысы і колькасць паверхаў. Але ці будуць захаваныя каваныя элементы, старая цэгла? Або на гэтым месцы паўстане офісны цэнтр з сілікатных блокаў? Пра гэта ў законе не сказана.

**Фота Васіль Малчанаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1847

Падпісана да друку 05.11.2020. 8.00. Наклад 5200 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.